лѣньѧ веніаминова (Хран., 207б); Еровоа*м* са*м* чини*л* министры зборовыи ... з наподлѣ[s]ши*х* люди*и* (Выкл., 80).

**Наподобнейшый** *прым. Тое, што і* найподобнейший. ѹваж и трецюю зацно*ст* ее, ижъ человека зако*н*ного, ꙗко василе[s] с҃ты[s] и иные поведають, пн҃у Богѹ чынить ꙗко наподобне[s]шы*м*, иле можна речъ человекови (Зб. 255, 414б).

**Напоеваный** *дзеепрым. ад* напоивати *ў* 1 *знач.* ѹзрѣлъ колодезъ на полю, трое те*ж* стада ѡвецъ лежали при немъ, бо з него напоевано скоты (Біблія, 64); оузрѣлъ колодезь на полю, трое тежь стада овецъ лежали при немъ: бо з него напоевано скоты (Хран., 44б).

**Напоевати** *гл.* напоивати

**Напоевый** *прым. ад* напой *у* 2 *знач.* въ мѣстѣ Виленскомъ столечномъ табачная аренда будеть належати до аренды напоевое (АСД, I, 309, 1638).

**Напоеный, напоенный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* напоити *ў* 1 *знач.* оцта и желчи напоены моучникъ же хсвъ никита сию страсть притерпѣвъ ѡ*т* безаконны*х* (Чэцця, 31).

**2.** *Ад* напоити *ў* 3 *знач.* радѹисѧ ... воспитанна пищею дѹховною напоена бл҃говхание*м* (Чэцця, 69б); се*с* оумреть в самои полности своеи ве*с* смиренъ и цѣлъ: лотоки его полны молока и москъ кости его напоенъ (Зб. 262, 21); если же речешъ: же оный агнецъ дорочный напоеный естъ виномъ, то естъ Кровію Христовою, коли его закладано [!] у Великій четвертокъ — правда! (Гарм., 20б); Жидѡве и Кгрекѡве, неволникѡве и волныи всѣ в[s] одинъ дх҃ъ напоены естесмо (Каліст, II, 113); млеко*м* наѹки апо*с*то*л*ское бы*л* ка*р*мены[s] и кровию хв҃ою напоены[s] (Зб. 255, 372б); сн҃ы лю*д*ские надѣю маю*т* по*д* заслоно*м* крилъ твои*х*. буд*ѹт* напоени в го[s]ности дому твоего (Пс. XVII, 5); чи можетъ Іерей напоенный Агнецъ, въ крови Г*с*да нашего Іс҃а Хр*с*та, въ Велѣкій Четве*р*токъ, ховати презъ цалый годъ (Зб. вып., 33).

**Напожиточней** *прысл. Тое, што і* найпожиточней. Маеть онъ и его жона, и счадкове ихъ то держати, вживати ... якъ ся имъ найлѣпей, напожиточней ку ихъ користному видѣти будеть (РПП, 82, 1532); намъ господару и речи посполитой на ономъ замку яко налѣпей и напожиточнѣй служити могъ (АСД, I, 135, 1562).

**Напожытечнейший** *прым. Тое, што і* найпожитечнейший. напожыте*ч*не[s]шое и натру*д*нѣ[s]шое есть вытрване в добры*м* (Зб. 752, 542б).

**Напозычати, напозычать** *дзеясл. ·Напазычаць, пазычыць у каго-н. у вялікай колькасці.* будучы потребенъ сумы пнзей и напозычал розными часы тры тисечы ... копъ грошей у малжонки своее (АВК, XXXVI, 14, 1582); иди напозычай ꙋ всихъ сусе*д* твоих начи*н*ꙗ порож*н*его немало (Біблія, 461); каза*л* е[s] теды елисе[s] абы напозычала порожны*х* бочо*к* (Бельск., 125); Вывелъ ихъ теды з[s] золотомъ и сребромъ, казавши кождомꙋ оу сꙋсѣда своего егvптчика начи*н*ѧ золотогѡ и сребрного напозычати (Мак., 365); всего того людꙋ своемꙋ напозыча*т* каза*л* ꙋ египте (Зб. 752, 263б).

**Напоиванье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* напоивати *ў* 1 *знач.* намъ тую стежку отецъ ихъ небожчикъ черезъ тое поле свое до воды мети и до млына своего для потребы допустилъ и для напоиванья животины (АВК, XVII, 329; 1541).

**Напоивати, напоевати, напоивать** *дзеясл.* **1.** *Напойваць, даваць магчымасць напіцца.* в посре*д*коу горъ боу*д*ꙋ*т* прохажива*т* воды, напоива*т* имоу*т* все звер*ѧ*та (Пс. XVI, 103б); какою чашою кто друга напоеваетъ, такую и самъ испіетъ (АЗР, IV, 495, 1615); кождый з[s] васъ в[s] сꙋботꙋ, не ѡ*т*вѧзꙋет[s] ли вола своего, або осла ѡ*т* ꙗслій, и ѡ*т*ведши напоюетъ (Каліст, II, 161).

**2.** *Арашаць, увільгатняць.* ты напоивае*ш* горы ѡ*т* верхо*в* свои*х*, ѡ*т* [ѡ]вощо*в* спра*в* твои*х*, ѡѳитовати име*т* земл*ꙗ*, чини*ш* рости пашоу ското*м* а зель*ѧ* на послоугꙋ ч҃ком (Пс. XVI, 103б); водою называет[s]с*ѧ*, ижъ ꙗкъ вода з[s] н҃ба сход*ѧ*чи напоюе*т*, ѡ*т*воложаетъ, и рости*т* (Каліст, I, 166б).

**3.** *// перан. Насычаць, напаўняць.* потечеть вода жива. д҃ховное наоученье штожь напоива*ж*чи д҃ши сл*ж*хаючи много. и ѡбильно блго*д*ти даръ во*дж* нарекаючи вода жива е*ст* (Чэцця, 212); рѣки потекꙋтъ з[s] живота вѣрꙋючого воды живои, то есть, наꙋка дꙋховна*ѧ*, котора*ѧ* дꙋшѣ слꙋхаючихъ напоюетъ (Каліст, I, 166б).

**Напоивший** *дзеепрым. ад* напоити *ў* 3 *знач.* илы*ꙗ* б҃госаженаꙗ лоза. напоившиꙗ бл҃гохвалѣниꙗ всего мира (Чэцця, 236).

**Напоитель** *наз. Той, хто напойвае.* крстъ жаж*д*ющимъ напоитель нагимъ одѣние (Чэцця, 21б).

**Напоити** *дзеясл.* **1.** *Напаіць, даць напіцца, выпіць чаго-н.* нищего въведи в домъ свои накорми напои (Чэцця, 90б); напою тебе ѡ*т* вина аптѣчного и ѡ*т* сокꙋ марькграмꙋ моего (Зб. 262, 85б); видѣвши дѣвка вино у фл*ѧ*шы свѣтло, вз*ѧ*вшы напоила дит*ѧ*, а и кгды дит*ѧ* напоила, тогож часу умерло (Трыст., 10); оный Климята напоившы коня ... ехалъ од воды до господы

(АВК, XXXVI, 235, 1582); сѹдити бг҃ъ бѹде*т* та*к*же и за тое што голодного не нако*р*мили, и прагнѹчого не напоили (Каз. Кір., 21б); нако*р*мили и напоили его з вечери за росказа*н*емъ ахи*лл*ѣꙗ (Тр. гіст., 71); Лакнѹлем^s, а не накормилисте мене: прагнѹлемъ, а не напоилисте мене (Мак., 288); сн҃ы^s каза*л* еи з мѣсца ѡного водою напоити (Зб. 82, 4б).

**2.** *Арасіць, увільгатніць, пакрыць кроплямі чаго-н.* ѡ*т*вори*л* гсь нбсныꙗ ѡблаки. Напоилъ землю (Чэцця, 235); напою стрелы моѧ во крови ихъ (Скар. ДЗ, 62б); кро*в* его на^sдоро*ж*шаꙗ ... кроплꙗми выникала, и та*к* шаты напои*в*ши, аж тежъ и на землю сплывала (Зб. 255, 243б).

**3.** *// перан. Насыціць, напоўніць якімі-н. ідэямі, пачуццямі і пад.; даць духоўны пажытак.* жена ... водою мудрости спасениѧ напоить его (Скар. ІС, 25); напоймѡ ср*д*ца нашѣ, абы зацви*т*ши, выростили овѡцы справедливости и правды (Каліст, II, 25); сн҃ы людские надѣю маю*т* по*д* заслоно*м* крилъ твои*х*. буд*ѹт* напоени в го^sности дому твоего а з реки роскоши твоеи напоишъ ихъ (Пс. XVII, 5); ѡказ*ал* еси люде*м* твои*м* тꙗ*ж*кости напои*л* еси насъ вино*м* жало*с*ти (Там жа, 45).

**Напоитися** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* напоити *ў* 3 *знач.* того ѡдного часѹ бж҃ественънаго ѡ*т*ца живота на*сл*ѣдовати прагнѹчи и его науками напоити*с* и ѡ него правдивой философіи стихиꙗ переньꙗти (Пралог, 559—559б).

**2.** *// перан. Насыціцца, увабраць у сябе што-н.* сꙗ напоила крови всꙗ землꙗ тро^sскаꙗ и скома*н*дрины бы*ст*ри[ны] з кро*в*ю плынѹли (Тр. гіст., 71б).

**Напой** *наз.* **1.** *Піццё (як дзеянне).* Головѹ никифора ѹтꙗтѹю на полю до*л*го кро*к* завѣша*л* вс*ѣм* еи ѹказѹючи, и потом з неи ковшъ до напою ѡправены^s в сребро ѹчини*л* (Бельск., 361); Пришолъ лю*д* до ме*р*ры где стѹднѧ, водѹ го*р*кѹю а до напою незгожѹю выдавала зе жродла (Мак., 372).

**2.** *Піццё; тое, што п'юць.* ѡдѣвши ихъ и ѡбу*в*ши и посиливши пока*р*момъ и напоемъ и намазавши длꙗ спрацова*н*ꙗ ... привели до ерихона мѣста (Біблія, 493); хлѣбъ ꙗ*ч*мѣны^s з ѡстꙗми котори^s и са*м* пре*з* сꙗ е*ст* брыдки^s рыба сѹхаꙗ до напою вода, ты*м* и*х* ко*р*ми*л* (Зб. 261, 146б); тыми рѹками, которыми срокгій братоѹбійства грѣхъ пополнилъ, не могъ трѧсѹчисѧ покармѹ и напою до оустъ своихъ принести (Каліст, I, 54б); Потрете абы чере*з* покармъ и напо*и* животъ чере*з* нарожен*е* набыты*и* вцале захова*л* (Навука, 5); тѣло свое повстѧгне*н*емъ ѡ*т* по-

кармꙋ и напою, и иншыми трꙋдами оутискати и высꙋшати почал (Варл., 271б); покармъ его былъ и медъ лѣсныs, напоs вода (Зб. 259, 630); показавсѧ емꙋ Агг҃лъ, показꙋючи чистꙋю барзо кришталовꙋю склѧницꙋ, зs барзо чистымъ напоемъ (Зб. вып., 52).

**3.** *Напітак; спецыяльна прыгатаваная для піцця вадкасць.* дамs тобѣ напои ѡт вина приправленаго (Скар. ПП, 10); вытиснꙋвши вина коштовал напою ѡного (Біблія, 27); одъ часу немалого пострахи великіе въ мѣстѣ Виленскомъ были, зачимъ мѣсто замыкано, людей, збожа, ани жадныхъ напоевъ до Вильна не пущано (АВК, VIII, 492—493, 1602); ѡдна только, ѡного пресладкого, длѧ тыхъ гостей зготованого напою, кроплѧ, такъ верховного Апслѡм оупоила (Карп., 22б); засѣлъ бы оу столꙋ и поставлено бы пред него потравы и напои коштовныи (Мак., 66); вина и напою пьꙗного ѡт молодости своеs не пил (Зб. 255, 155); потрав роскошных и напоев смачных на столы поставлено (Зб. 259, 119б).

**4.** *Кошт выпітага ў доўг віна; сума доўгу за віно.* Хветко Хритаповичъ чинил пилность ... противъ Антона Озаровича о томъ, иж его дал заказат до права о петдесят гршей напою (АВК, XXXIX, 164, 1579); Домна ... поведила, иж не ест ему винна дву коп гршей и у позыку не брала, але у напою он остал винен (Там жа, 584).

**5.** *// перан. Духоўныя патрабаванні, ідэі, пачуцці і інш.* д҃ша ... зs самого Бозтва Бж҃го, зs власного Дх҃а, и зs властивои свѣтлости, маетs покармs и напой дꙋховныи, и шатꙋ нбснꙋю (Мак., 12—13); рекъ исус тело мое правдивыs ест покармъ а кров моꙗ правдивыs ест напоs (Зб. 255, 76б).

**Напоймовати** *дзеясл. Набраць каго-н. на выкананне якіх-н. паслуг, абавязкаў.* напоймовал теды собѣ давыд еще наложницъ и жонъ зъ иерꙋсалима (Біблія, 364); напоимовалъ теды собѣ Дв҃дъ еще наложницъ и жонъ зs Іерслима (Хран., 248б).

**Напойный** *прым.* ◊ О ф е р а н а п о й н а я — *ахвярапрынашэнне ў выглядзе спіртных напіткаў.* чинит бꙋдешъ на ѡлтарꙋ два баранки рочныи што день ꙋставичне, ѡдного баранка поранꙋ а дрꙋгого в вечоръ, десꙗтую часть ефи преднеи мꙋки закропленой зъ ѡливою збитою и вина кꙋ ѡфѣрѣ напойной (Біблія, 147).

**Наполбелый** *прым. Напалавіну белы.* барва его наполбѣла иже оу серои щасткоу держитсѧ прироженіе зимного и мокрого (Неба, 70б).

**Наполживый** *прым. Тое, што і* наполыживый. Бж҃ого о насъ промыслꙋ заслонꙋ здираютъ з<sup>s</sup> насъ ... наполъ живое зоставивши чл҃вчее прирожене (Каліст, II, 150).

**Наползумерлый** *дзеепрым. Тое, што і* наполыумерлый. Еле живъ: Ледве що живъ, наполъ зоумерлымъ (Бяр., 41).

**Наполмертвый** *прым. Тое, што і* наполымертвый. все тѣло его посекли бичами и поранивши а наполмертваго ѡставивши вкинꙋли его до темницы (Зб. 752, 116б).

**Наполневати** *дзеясл.* **1.** *Напаўняць, запаўняць.* онъ наполневалъ домы их добра (Скар. KI, 28б); вытѧгнꙋвши рыбы наполнюют<sup>s</sup> ними обѣдвѣ свои лоди (Каліст, II, 105).

**2.** *Выконваць.* гсдь богъ наполневаше прозбу его (Скар. КЛ, 3).

**Наполнейший** *прым. Які дасягнуў найвышэйшага развіцця.* Александръ ведаи иже преже сего всего, сотворил бг҃ъ самовласть дх҃овноую и наполнеишꙋю и напрдобнеишоую и воѡбразовал в ню, все есство, и нарек еѧ оум (Арыст., 154).

**Наполнение** *гл.* наполненье

**Наполненый, наполненный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* наполнити *ў* 1 *знач.* с жонами и з детми своими с тых столовъ наполненыхъ едѧт и пьють тые дни ѡт роженіа аж до епипании (Валх., 85); ѡт плода ꙋстѣн<sup>s</sup> мужевых<sup>s</sup> наполнена бывает ꙋтроба его (Скар. ПС, 29); галша ... зна<sup>s</sup>детъ горꙋ красну з ровнинами великими ѡблеглую и ѡбфитостѧми наполненꙋю (Патр. П, 87б); збꙋдовали мост на тибре з лодъев, видꙗчи то тарквиниꙋшъ, спꙋстил з верхꙋ на них дрꙋгие лоди, наполненые смолы сѣрки (Бельск., 148б); взꙗвши мѣдницꙋ мосꙗзовꙋю наполненꙋю воды дожчовои (Алекс., 1); Прагнꙋчіи: кгды до рꙋкъ кꙋбок напиткомъ наполненый берꙋтъ, з<sup>s</sup> великою охотою его до оустъ приносѧтъ (Каліст, I, 16б); видет было наполненыи вежи и турмы, не лотрами ани разбо<sup>s</sup>никами ани иншыми злочинъцами, але людми побожными (Зб. 82, 98).

**2.** *Ад* наполнити *ў* 3 *знач.* сталъ ст҃ыи чистъ запахоу наполненъ (Чэцця, 104б); ꙗблока албо иных ѡвощь коли кто з любости оурвет и разломит соут оуноутрь порох да пепел шкарѧдным велми смродом наполнене (Валх., 86б); вы котѡрыи ѡт насъ тыи збавенныи квѣтки пріймꙋете, добровонност<sup>s</sup>ю цнѡт наполнены ... вдѧчными Бг҃ꙋ домами ... сталисѧ (Каліст, II, 83б—84); мало заснꙋвши, ѡбачилъ себе ... на широкое поле запроваженого, зелеными квѣтками, и вдѧчною вонностью наполненое (Варл., 279б).

**3.** *Ад* наполнити *ў* 4 *знач.* тогды тая третяя часть маеть быти напольнена зъ Заболотья (КСД, 532, 1507).

**4.** *Ад* наполнити *ў* 9 *знач.* стрѣтилъ его бѣсъ, всѧкимъ лихимъ напольненъ (Чэцця, 104); тогды пилат гневоу наполнен албо розгневалсѧ приказал штобы оуси жидове сошлисе к немоу перед ратоушом (Пак. Хр., 18б—19); абы болше не было страшъное таковое мешкане не справедливости наполненое (Каз. Кір., 3б); ровоас котори$^{s}$ перед алеѯандром служил, наполнены$^{s}$ злои мысли, взıал слоекъ ѡт своего брата кассандра, и вложил ıадȣ на пазногот великоко палца (Алекс., 44б); нетамошнее тръвоги живот тот наполненый есть (Кін., 51б); Іѡасафъ зас великою скрȣхою на срдци бȣдȣчи наполненый, слезами сѧ ѡбливалъ (Варл., 79б); ȣста мои неха$^{s}$ будȣт наполнены хвалы твоеи, абых спѣвал славу твою (Пс. XVII, 48); трȣдно было доброго мȣжа гнѣвȣ наполненного ѡт бою повстıагнути (Алекс. 1697, 14б).

**5.** *// перан. Прасякнуты, запоўнены, захоплены, заняты цалкам (пра думкі, ідэі і пад).* того пррочства наполнени оуси болши оурожаи и вес люд на оусток слнца (Валх., 39б); мойсей ѡныи вси речи ѡтдалъ до роботы веселейлу сынȣ иѡровȣ наполненому дȣха божего (Біблія, 155); кождый во своей натȣрѣ и исности, наполнен$^{s}$ дха зостанет (Мак., 131); неха$^{s}$ кожды$^{s}$ хрестиıански$^{s}$ человѣк тепер новою надѣею, новыми пожитками бȣдет наполънены$^{s}$ (Зб. 259, 53б); Была ѡдна паненка в$^{s}$ алеѯандрѣи, вѣрою в христа гсда нашего наполненаıа (Пралог, 582).

**6.** *// перан. Надзелены чым-н., адораны якімі-н. якасцямі.* кто боудеть проклѧл тебе боуди тотъ проклѧтъ. да кто боудеть блгсвилъ тебе боудеть блгсвлнства наполненъ (Пак. Хр., 4); которое се, престое, и всѧкихъ нбсных$^{s}$ дарѡв наполненое, срдце твое исполнило, в$^{s}$ тот$^{s}$ день, в$^{s}$ который сѧ, так$^{s}$ долгомȣ и горачомȣ прагнен$^{s}$ю твоемȣ, досыт$^{s}$ стало (Карп., 40б); Кроль зась легкого того человѣка порожнею гордост$^{s}$ю хлюбѧчогосѧ видѧчи, зараз сѧ до потѣхи и весельѧ ѡбернȣлъ, сподѣваючисѧ ижъ ѡный роспȣстный и смѣлый ıазыкъ, дшȣ ѡт Бга наоученнȣю, и мȣдростью наполненнȣю звытѧжит$^{s}$ (Варл., 266б); хто кров хвȣ пиет внȣтръ ѡт бога бывает наполнены$^{s}$ а зверхȣ ѡт бога бывает защитены$^{s}$ (Зб. 255, 77б).

**7.** *Распаўсюджаны (па ўсёй тэрыторыі).* реклъ гсдь: ѡтпȣстилъ есмь водлȣгъ слова твоегѡ: живȣ ıа и бȣде наполнена слава гсднѧ на всей земли (Хран., 13б).

**Наполненье, наполнение** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* наполнити *ў* 1 *знач.* Тогда здравие бꙋдеть въ животѣ твоемъ, и наполнение мозгу въ костѧхъ твоихъ (Скар. ПС, 8б); горѧчесть животнаѧ и наполненіе животное и икота, и дремота ... бываеть из многаго сноу и покоѧ (Арыст., 192).

**2.** *Павелічэнне, дапаўненне; напаўненне.* веселе похлѣбцово до ѡкомгненіѧ ... в наполне*ни* статкꙋ его бꙋде*т* тошно емꙋ всѧкаѧ рꙋка трꙋ*д*никова пріиде*т* емꙋ (Зб. 262, 20б); длѧ наполненѕѧ личбы зѕ вѣковъ презраныхъ по*д*нѧлъ смр҃ть оусненѕѧ (Лям., 14).

**3.** *Выкананне, ажыццяўленне, здзяйсненне.* дева ... не будетѕ повинна къ наполнению слюбꙋ своего (Скар. ЛК, 63).

**4.** *Тое, чым запоўнена што-н.* Если будꙋ лакнути не будꙋ тобѣ ѡ то мовити бо моѕ есть свѣтъ и все наполне*не* его (Пс. XVII, 30б); Гсднꙗ е*ст* землꙗ и напо*л*нене еи (Выкл., 116).

**Наполнитель** *наз.* *Складальнік, тварэц.* наполнитель законоу хсъ. в животъ девичии вселилсѧ и породилсѧ (Чэцця, 120); закона наполнитель пришолъ хсъ (Там жа, 138б).

**Наполнити, наполнить** *дзеясл.* **1.** *Напоўніць; запоўніць, поўнасцю заняць.* ѡди*н* з рытеровъ имене*м* степато*н* наполни*л* губкоу ѡцтомъ (Пак. Хр., 22); ахиле*с* заправду корабли свои великою спижею наполнивши ... ис своими корабли на морѧ сѧ пусти*л* (Троя, 10—10б); тарасы оные передъ собою катячи, перекопъ деревомъ наполнили (АЗР, III, 142, 1568); дочка ... зышла была до студе*н*ца и напо*л*нила была ведро и ворочаласꙗ (Біблія, 55); росказа*л* шафарови напо*л*нити мѣхи и*х* збоже*м* (Бельск., 31б); кгда*н*щане наполнивши шкꙋту соломы ... и запаливши ѡдопхнꙋ*т* хотѣли ѡ*т* берега (Хр. польск., 24); Бꙋдучи теды мнѡгім*и* бѣдам*и* стисненый и до та*к* велико*и* не*н*дзы прише*д*ш*и*, же и молотомъ, который свини ѣли, своего черева наполнити не моглѕ (Варл., 96); ро*в* великиѕ выкопа*т* и воды его напо*л*ни*т* ... казалъ (Зб. 82, 33).

**2.** *Запоўніць сабой поўнасцю.* коли дариѕ кꙋ рецѣ прибѣглъ нашо*л* ю заме*р*злꙋю. пе*р*сове те*ж* переходꙗчи напо*л*нили рѣку ѡ*т* ѡдного берегу до дрꙋгого, а такъ длꙗ великости людꙋ ледъ се проломи*л* (Алекс., 19—19б); прилетѣли великии птахи чи*р*воныи, а носы ꙋ нихъ и ноги чо*р*ныи, котории имъ ничого не шкодили, але велико*ст*ю своею наполнивши береги ѡного ѡзера вытегали з него рибы (Там жа, 28); кивали на товаришѡвъ которыи вѕ дрꙋгой ло*д*и были, абы прише*д*ши помогли

имъ. И пришли и наполнили обѣдвѣ лоди ажъ тонꙋлы (Каліст, II, 104).

**3.** *Запоўніць (пахамі, водарам, гукамі і пад.).* Домъ гноемъ и смродомъ засореный очистити, оухендожити, и вшелѧкими запахами и скарбами наполнити потреба (Мак., 266); Стал се спрꙋдка з неба шумъ ꙗкобы припадаючого ветрꙋ кгвалтовного и наполнилъ вес домъ где седели (Зб. 255, 64б); тѣло еꙗ ꙗкъ лой ꙗкиѕ росплынꙋло и вонъност его дивне солодкаꙗ все место наполънило, ꙗко дорогиѕ ꙗкиѕ вонъный ѡлеекъ (Пралог, 657); нерадница ... минаючи нас повесттрие все перхꙋмами вонею вдꙗчною наполнила (Зб. 82, 83).

**4.** *Дапоўніць, папоўніць.* ѡпекалники и иные пожитки або скарбы потратили або люди розогнали, а то бы на них правом переведено. тогды все подле реѕстров зо всих именеѕ мают детем наполнити (Ст. 1529—Ф, 58); ѡни тепер з своихъ частеѕ люди и челꙗди ... розогънали и хочать то собе моею частью наполънити (КВЗС, 46б, 1538); мнѡго свѣдецтвѕ дѣеписъ приводитѕ а наветъ два роздѣлы, то есть ѳ҃, и і҃, самыми ркомо его словами наполнил (Апакр., 105б); Сынъ человѣческій Панъ естъ суботѣ ... бовѣмъ не пришолъ псовати, але недостаточное наполнити (Пыт., 72); чого они занехали, то онъ наполнилъ, и што они вкоротце рекли, той вѕ своемъ Еѵгліи положилъ обширнѣй (Каліст, II, 247).

**5.** *Выканаць, ажыццявіць, здзейсніць.* штон коли бог черес слоуги свое прр҃ки ѡбецал и преслал моцен был теж оучинити и наполнити (Валх., 42); послухавши да навчатсѧ боꙗтисѧ гсда бога, и сохранѧтѕ и наполнѧтѕ всѧ заповеди закона сего (Скар. ДЗ, 59б); любитѕ ли сѧ Царю, дати мне чего жъ жадаю и наполънити прозбу мою (Скар. КЕ, 10б); вчинилъ гсдь ꙗкоже мыслилъ наполнилъ слово свое (Скар. ПЕ, 7); вструпивши над всѣ нб҃са, абы наполнилъ все, дал нѣкоторые апслы, ѡвые пророкы, дрꙋгіе евангелисты, нѣкоторые пастыри и оучители (Апакр., 93).

**6.** *Забяспечыць у дастатковай колькасці.* голодныхъ наполнилъ дѡбръ, а богатыхъ выслалъ тщихъ (Каліст, II, 240б). // *перан. Надзяліць чым-н.; адарыць каго-н. якімі-н. якасцямі.* Сила божиꙗ наполнила их дх҃овных бж҃ественых даров (Чэцця, 69).

**7.** *Засяліць; запоўніць; заняць жыхарамі, насельніцтвам.* наполнишь землю свою народомъ и товаром (Арыст., 150); три сынове ноевы наполнили потомством своим три части свѣта азию африку и европию (Біблія, 28); вси полночныи краи и межи всходних частеѕ свѣта народами славенского ꙗзыка на-

полнили (Стрыйк., 432б); Сынове Ізраилевы розросли и розмножилисѧ, и змоцнившисѧ збы*т*не наполнили землю (Хран., 78—78б); то*т* ѡбычаи юж был давно пред паном христом ѹстал, кды людское розмножене свѣтъ наполнило (Выкл., 14).

**8.** *Распаўсюдзіць па ўсёй тэрыторыі, пашырыць сферу ўжывання.* виноград зъ египта перенес а выгнал еси ꙗзыкы и насадил еси их, дорогоу справовал еси перед ним, и посидил [!] еси корене ег, наполни землю аж покрыла горы стень ег (Пс. XVI, 83—83б); на^s^перъве^s^ вес светъ Евангелиею наполнили, фалшывых богов службѹ выкинѹли (Зб. 255, 215); Перенеслъ еси виноград з^s^ египту ... и дал сꙗ есь ему роскоренити, такъ иж наполнил землю (Пс. XVII, 73б).

**9.** *// перан. Перапоўніць, празмерна напоўніць чым-н., якімі-н. пачуццямі.* ѡна ... страхоу бж҃ьего вси люди наполнила (Чэцця, 52б); бг҃ъ же не ѡмерзи*т* цѣла и не име*т* за рѹкѹ лихих дондеже наполни*т* смѣхѹ оуста твои и гѹбы твои рыготанѧ (Зб. 262, 15б); коли сꙗ все докончило, ѡкрил ѡболокъ наметъ свѣдецства, а слава гсднꙗ наполнила его. и не моглъ моисей во^s^ти под прикрите намету (Біблія, 157); мене горкосте^s^ наполнил гд҃ъ бг҃ъ всемогѹщи^s^ (Бельск., 76б); хотѧчи абовѣм^s^ нас Гсдь, вкѹшеньемъ царства напѡлнити, мовитъ: Без мене ничого не можете (Мак., 119); Сн҃ѹ, што то за слава до оушеи моих зашла, и срдце мое смѹтком наполнила (Варл., 20б); наполни ср҃дце ихъ боꙗзнию твоею абы тобе в чистости слѹжили (Пралог, 680б); ариꙗнове ... церкви правовѣрных побурили ѡлтари спросности и бридкости наполнили (Зб. 82, 328).

**Наполнитися, наполнитисе** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* наполнити ў 1 *знач.* ѡ*т* того часа не ѡскодѣл сосоуд моучьныи но болеи наполнивсѧ (Чэцця, 233б); Сладокъ естъ человѣкѹ хлебъ лъживыи, потомъ же наполънѧтсѧ ѹста его камениѧ (Скар. ПС, 31б); королевъство небесное [подобно есть] неводу вкиненому в^s^ море, и с^s^ каждого рода собравшому, который гды наполъниться, выволокли его на кърай (Цяп., 19).

**2.** *Ад* наполнити ў 2 *знач.* набѣглосꙗ ѡ*т*всел до антиѡхии, где двор царски^s^ был, мног чаровников, ворожков, вѣщков, заклиначов, и иных збродне^s^, и наполнилсе двор цесарски^s^ людми подлыми (Бельск., 278б); выйди на дороги и оплотки, а примѹсь войти, абы сѧ наполнил домъ мой (Каліст, II, 167); кгды сѧ доброволне тые ѡ*т* навдѧчнѣишеи тоей потѣхи ѡ*т*далили, иншіе были позвани, и наполнилосѧ мѣстце сѣдѧчими (Варл., 75); Теды се розгневавши господар казалъ слѹзе своемѹ з ѹлиц

и дорогъ ꙗкие колвекъ ꙋбогие ꙋломные слепые и хромые созват и ѡвшем примꙋсит абы се вес домъ наполнил (Зб. 255, 79б).

**3.** *Ад* наполнити *ў* 9 *знач*. црь оу великои печали сталъ по лꙗи и наполнивсѧ гнѣва (Чэцця, 59); видел гаман мардахаѧ оу воротъ црскых а не оустал ни зынꙋлсѧ емоу и наполнилсѧ гаман на мордохаѧ гнѣвꙋ (Зб. 262, 130); если же оубогій взѧвъши скарбы ѡд королѧ в^s депозит^s, и оуфаючи в^s чꙋжіи богатства, ꙗкъ з^s своеи маетности в^s пыхꙋ поднесет^sсѧ, и срдце его дха, зꙋхвалства наполнит^sсѧ (Мак., 144); Крол теды великою оутѣхою наполнившисѧ, все кролевство собѣ подлеглое на двѣ части роздѣлилъ (Варл., 303б); видꙗчи то Алеѯандер же ѡцъ его иншую берет за собе жонꙋ а маткꙋ его Алимпиадꙋ покинꙋлъ, тогды гнѣвꙋ великого наполнилсꙗ и поникши сидѣлъ (Алекс. 1697, 2). ◊ Н а п о л н и т и с я з л о й (с в о е й) в о л и, з л о г о у м ы с л у — *прасякнуцца злосным намерам, зламыснасцю*. тотъ Жикгимонтъ, наполнившися воли своей ... мене самого збилъ и зранилъ (АВК, XXII, 256, 1565—1566); кгды дей въ ночи заснули, Мѣшковскій, наполнившисе злого умыслу своего ... немало речей изъ сверна, отворивши побралъ (АВК, II, 254, 1584); наполнивъшысе дей оный служебъникъ ... злое воли и умыслу ... панну Луцыю ударылъ (АВК, XX, 82, 1592). *Параўн.* навповнитися.

**4.** *Папоўніцца чым-н.* Нынѣ, всесвѣтлый црю, приспѣ время тебѣ: злата и богатства много наполнися земля московская (Мам., 170); бо то мовит гсдь: не ꙋзрите вѣтръ або дожчꙋ а потокъ той наполнитсѧ воды (Хран., 321б).

**5.** *Скончыцца (аб тэрміне).* наполнилисѧ соут дни мріи абы породила. и породила сна своего единородного (Валх., 42б).

**6.** *Пакрыцца чым-н.* лице его все слезъ наполнилосѧ (Чэцця, 238); голова моѧ наполниласѧ росы а кꙋдри мои краплѧми ночными (Зб. 262, 84б); сталосе рано коли ест звычай офѣрꙋ справовать, тогды воды приходили дорогою едомскꙋю, и наполниласѧ землѧ водами (Хран., 321б).

**7.** *Збыцца, ажыццявіцца, здзейсніцца.* тые оуси речи. моусѧт се во мне наполнити а бгоу ѡтцю моушꙋ послоушенъ быти штобы сѧ наполнило што писано есть ѡ мнѣ (Пак. Хр., 3б); мешкал оу месте назарет абы наполнилосе што речено черес пррка рекоучего (Валх., 62б); наполнилосѧ пророчество его (Скар. ПЕ, 2).

**Наполняный** *дзеепрым. ад* наполняти *ў* 1 *знач*. рꙋки их наполнꙗно ѡфѣрами и дарами (Выкл., 53).

**Наполняти** *дзеясл.* **1.** *Напаўняць, запаўняць.* наполнѧють домы свои серебра (Зб. 262, 13); кнꙗжаты, которыи мают золото и наполнꙗют домы свои сребром (Біблія, 81); добрами своими насычаетъ живот нашъ: наполнѧетъ гѹмна наши збожъем (Каліст, II, 204); дани великіе казалъ брати ѡт чистого злата, а каменіа многоцѣнного кораблѣ наполнꙗти (Алекс. 1697, 19б).

**2.** *Засяляць; запаўняць; займаць жыхарамі, насельніцтвам.* чините то, што вамъ бг҃ъ заказал, раститесѧ плодитесѧ наполнꙗѕте землю (Царств., 72); благословил богъ ноꙗ и сыны его, и реклъ до них ростите и множитесꙗ, а наполнꙗѕте землю (Біблія, 26); З царигородѹ вси се монахи розбѣжали ... вѣрныи длꙗ ѡкрѹтенства копронимовог, на гори ѹтекали и лѣсы наполнꙗли (Бельск., 351б); прирожене ... широкѹю землю новымъ рожаемъ напольнꙗет (Зб. 259, 535б—536); блгсвилъ ихъ мовѧчи: растетесѧ и множитесѧ и наполнѧйте воды морскіи. и птаство нехай сѧ множитъ на земли (Хран., 4); ꙗко малженство наполнꙗет землю, такъ паненство и безженство небо (Выкл., 4).

**3.** *Запаўняць (пахамі, водарам і пад.).* зефир ... з квѣтов и з гол вонностиѕ повѣтрие наполнꙗет (Бельск., 3); зефиръ тиховѣючій и неѡтмѣнный оучинилъ, который зѕ квѣтов вонности повѣтріе наполнѧетъ (Хран., 5).

**4.** *// перан. Надзяляць чым-н.; адорваць каго-н. якімі-н. якасцямі.* освѣчаетъ розѹмъ, и наполнѧет его познанемъ речій невидомыхъ (Каліст, II, 187б); Долгостю теды дній нас наполнѧючи, ѡказѹй нам збавене твое (Сматр., 54); розѹмѣй ꙗкого оутѣшителѧ, которій оутѣшаетъ, и вѕ смѹткѹ бѹдѹчихъ радости наполнѧетъ (Мак., 177); тое толко само потѣхѹ его прерывало, и срдце фрасѹнкомъ наполнѧло (Варл., 5б); так дѹхъ ст҃ыѕ серце взрѹшаетъ до скрѹхи, плачѹ ... над то всю дѹшѹ розѹмъ волю и иншые силы наполнꙗеть, коли прожны сѹть ѡт иных жаждъ земныхъ (Зб. 255, 65); Блгсви д҃ше моꙗ гд҃а ... которіѕ наполнꙗет добрами жаждѹ твою (Пс. XVII, 106—106б).

**5.** *Выконваць, ажыццяўляць, здзяйсняць.* онѕ же не пребудетѕ во словехѕ закона сего и делом не наполнѧꙗ его (Скар. ДЗ, 51).

**6.** *Напаўняць сокамі (пра зерне, плады і пад.).* землѧ зпложаеть, первей травѹ, потомъ колосъ. затымъ наполнѧет пшеницу въ колосе. а гды созреетъ овощъ, натыхъместъ пошлеть серпъ (Цяп., 48).

**7.** *// перан. Узбуджаць, распальваць.* вода спасителева ласкѹ божѹю ... показѹет котораꙗ правдиве прагнене наше наполнꙗеть и гасить (Зб. 255, 18).

**Наполнятися, наполнятисе** *дзеясл. зв.* **1.** *Напаўняцца, ставіцца поўным, запоўніцца да верху.* колодезь бо ест не ѡскѹденъ колько ег вычерпають а ѡнъ болше наполнѧетсѧ (Чэцця, 163б); дрѹгие мѣста з своими ѡбывателми под землею запали, ѡтворили сıа пропасти великие, а водою се солоною наполнıали (Бельск., 252б); ıакъ бовѣмъ море незличоное мнѡзство рѣкъ в^s себе берѹчи нѣколи не наполнѧет^sсѧ, такъ и хтивость лакомого нѣколи сѧ наполнити не можетъ (Каліст, I, 35).

**2.** *// перан. Перапаўняцца, празмерна напаўняцца чым-н.* заноуж ѡт початка свѣта, чимъ далеи. тымъ наполнѧло сѧ лѣпшимъ (Чэцця, 131б); ıако сѧ д҃ша чл҃чаѧ преѡбражает, кгды з^s ласки и дарѹ прес҃того и животворѧщого д҃ха, потѣх^s и роскошей з^s неба плынѹчих^s наполнѧет^sсѧ (Карп., 12); ведлѹгъ прирожена, богатство хлѣбомъ и водою, и ıакимколвек тѣла одѣнемъ наполнѧетсѧ (Каліст, II, 180б); так^s срдце бѹдѹчи палацомъ Хрстовым^s, наполнѧет^sсѧ вшелѧкои нечистоты и многими злых^s дѹховъ тлѹщами (Мак., 148); Кроль засъ, кгды того, такъ подло и шпетне ѡдѣтого ... ѡбачилъ, жалемъ веспол и гнѣвомъ наполнѧлъсѧ (Варл., 8б—9); матфе^s ... наслѣдовал гд҃а и наполнıаючысѧ небесное наѹки, и в цнотах доскональсти в школѣ ѡно^s христово^s годным сıа стал быт почытаны^s межы двенадцатми (Зб. 752, 479б).

**3.** *Мінаць, праходзіць (аб тэрміне).* егда бѹдѹть наполнѧтисѧ во вавилоне седмъдесѧть лет^s навежу васъ (Скар. ПЕ, 2).

**Наполняючий** *дзеепрым. Які выконвае, ажыццяўляе, здзяйсняе.* пришолъ до насъ, всюды бѹдѹчій и все наполнѧючій: бо былъ в^s нѣдрахъ ѡтчихъ (Каліст, II, 122).

**Наполняющий** *дзеепрым.* **1.** *Які распаўсюджвае што-н. па ўсёй тэрыторыі.* Сее знаменовало зачатие нашего спасителѧ Іс҃ъ Хрста ... стирающее силу диаволскую, и наполнѧющее всю вселенную светым^s своим^s Еввангелием (Скар. ДП, 2—2б).

**2.** *// перан. Які нараджае, стварае што-н.* Венець мудрости боıатисѧ бога, наполнѧющии миру: и плоду спасениѧ и видел^s ест и изчетлъ ю (Скар. IC, 6).

**Наполокъ** *наз. Жалезная лапатка, прымацаваная наўскасяк да лемеха для адвалу зямлі.* нароговъ двои съ наполками (АСД, I, 181, 1590); начыня в дому железного: ... лемешы з наполками 2 (ИЮМ, XXV, 175, 1637); лемешов трое з наполками по золотых два купленые (АВК, XXXIV, 337, 1664).

**Наполохати** *дзеясл. Напалохаць, напужаць.* Oscika neboszczyka napołochaw kat u Wilni, aż miaso ieho walałosie (Абух., 440).

**Наполпоношеный** *дзеепрым. Тое, што і* наполызношоный. аксуба Курмашевичъ ... далъ ему зададку двадцать и пять грошей, кожухъ наполъ поношеный (АВК, XXI, 103, 1555).

**Наполъ** *прысл.* **1.** *Тое, што і* наполы *ў* 1 *знач.* при томъ дей бои тому Лукашу Трумповичу косу перебито наполъ (АВК, XXI, 46, 1555); копъцы дей на той сеножати, которыя тую сеножать нашу з сеножатью их на пол делили, два выкопалъ и выказил (АВК, XXXVI, 249, 1582); Годишевскій ... дерево ... подрубилъ и на клячу подданого моего спустилъ, которую клячу ... жеребную, деревомъ наполъ посерединѣ перебилъ (АВК, VI, 127, 1629); та*к* се до*л*го честовали и хлѣбъ напо*л* розломили и ели (Зб. 752, 237); колля дубового грубого, наполъ перецинали (ИЮМ, V, 175, 1688). *Параўн.* навполъ.

**2.** *Тое, што і* наполы *ў* 2 *знач.* хто коли свои свіньи оу чіи*ж* гаи на жолѹдъ оугони*т* а то*т* застанеть чіи лѣ*с* ... имаеть во ѡборонѹ оу нашѹ оугонить а с нами наполъ подѣліть (Вісл., 37б); коли будетъ нашъ чоловѣкъ правъ, ино съ права пересудомъ дѣляться наполъ со архимандритомъ (АЗР, I, 104, 1483); всѧки<sup>s</sup> добытокъ тыи люди межи себе на-полъ деливали (КСД, 883, 1516); Щасный, не хотечи присегать, самъ добровольне позволилъ тое поле удолжъ на полъ с тыми поддаными ... поделити (АВК, XXI, 36, 1555); то они маютъ завжды на обоехъ сторонахъ по половинѣ весполъ зъ собою рыбы ловити и бобры гонити и наполъ делити (АВК, XI, 26, 1556); што ся зостаеетъ тое десятины жита копъ пятьдесятъ, то маетъ быти наполъ раздѣлено (АСД, XI, 162, 1567); жоне моей Ганне ... вси речи мои рухомые, што кольвекъ знайдется в дому моемъ ... наполъ з братаничомъ (АВК, XX, 110, 1594); которую ниву тот Матей Витортович на пол зо мъною Яномъ Мартиновичомъ делилъ (АВК, XXXII, 217, 1596).

**3.** *Тое, што і* наполы *ў* 3 *знач.* мелъ дей онъ тую пшеницу со мною наполъ сеяти (АВК, XVII, 276, 1541); сеножате[s] которые тотъ блаже[s] тымъ Миколаемъ братомъ своимъ наполъ кошывалъ (КВС, 439, 1545); мелницу в месте Виленьском тую на пол поделити маюrь (АВК, XXXVI, 56, 1582).

**4.** *Напалам, у сумесі з чым-н.* одинъ добрый человекъ ... принеслъ воскъ свежій на полъ зъ огарковымъ (ИЮМ, VIII, 383, 1623).

**Наполы** *прысл.* **1.** *Папалам, на дзве прыблізна роўныя часткі, напалавіну.* мы имъ роздѣлили наполы тое ѡзеро, бискупови таѧ половина што къ лынкгменомъ а кгедроитьскимъ другаѧ

половина (АЗР, I, 28, 1399—1429); вѣтрила карабельнаѧ разодрало наполы и оувергло в море (Чэцця, 91); тая рѣка ... на полы дѣлить имѣнье князя старосты Володимирского (АСД, I, 55, 1546); Бово ѡдин хлѣбъ розрѣзал на полы и кинул половицу ѡдному выжлу (Бава, 135); реклъ розотнѣте тое дѣтѧ живое наполы, даѕте кождоѕ з них свою половицꙋ (Бельск., 113б); разделиломъ, цвинтаръ, на которомъ церковь стоитъ каменми обложоный, тотъ также наполы (АВК, I, 17, 1604); Июда ꙋдавленыѕ роспꙋклъ се наполы, и выплынꙋли вси внꙋтръности его (Зб. 255, 256); даніилъ реклъ: добрѣ есмь солгалѕ на головꙋ твою, ѡто агглъ гсдній за выроком бж҃іимъ перетнет тебе наполы (Хран., 370). *Параўн.* наполъ *у* 1 *знач.*

**2.** *Пароўну, у аднолькавай колькасці.* тые две дольницы именья и челяди [и] статковъ присудили есмо Сеньку и з братанънами его, зъ Альжбетою и з Оленою, наполы поделити (КЗ, 396, 1484); мають они тое именье отчинное Русивль ... наполы делити по близкости после дядиное своее Ѳедковое жывота (Там жа, 519, 1494); тое жито присудили есмо посполу съ нимъ пожати и на-полы подѣлити (КСД, 89, 1514); тот лесъ ... мают в лыко и лихое и доброе поделили наполы (Ст. 1529—Ф, 110); Микула добровольне в тыхъ поляхъ ей делъ ровный дати и наполы з нею поделити поднялся (АВК, XXI, 14, 1555); што прыдобудемъ собѣ городов албо волостеи то все на полы поделити (Рач., 316); маетностѕю своею наполы зѕ Хо҃мѕ не дѣлѧтсѧ, але часть емꙋ ꙗкꙋю ѡтдѣлѧютъ (Каліст, II, 126б). *Параўн.* наполъ *у* 2 *знач.*

**3.** *На роўных долях з кім-н.* теперь тотъ зять мой на той полянце хочетъ жито зо мною наполы жати, не вѣдаю въ которую причину (АВК, XVII, 24, 1539); онъ тую пшеницу въ него наполы сеяти взялъ (Там жа, 276, 1541); теперъ тые сеножати мають межи собою наполы косити (КВС, 439, 1545); в огородех тых, што мещане пана подкоморого и пана Миколаевы, загородившы держать на полы (АВК, XXXVI, 181, 1582). *Параўн.* наполъ *у* 3 *знач.*

**Наполыгорачый** *прым. Летні, не вельмі гарачы.* был або зимныѕ або горачыѕ але жес летныѕ и наполыгорачыѕ (Зб. 261, 129).

**Наполыживый** *прым. Напаўжывы, ледзь жывы.* его люд ... ѡт коньских ногъ его ꙗко бы оумарлого вытѧгнули вѧзуть [!] его ку их пребытком наполыживого (Троя, 47б—48); вышол застрашеныѕ збледнѣлыѕ и наполыживыѕ бѣдныѕ праѡтец нашъ (Бельск., 5б); поглед аѕте грѣшъные на хс҃та, которѕ ... ледве

наполыживъ, потъ крвавы[s] з себе го[s]не вылевает (Зб. 259, 634); коли до ѡных его постов и невысыпанꙗ тот фрасꙋнок припалъ, праве наполы был живъ (Зб. 82, 320б). *Параўн.* наполживый.

**Наполызношоный** *дзеепрым. Такі, якім карысталіся, падношаны.* виненъ будетъ Павелъ ... заплатити ... за сермягу наполы зношоную чотыры гроши (АВК, XXI, 40, 1555). *Параўн.* наполпоношеный.

**Наполымертвый** *прым. Напаўмёртвы; напаўжывы, ледзь жывы.* на тые слова милостиваꙗ панна маріа пала на землю. к ногам своего милого сн҃а. роуце ростѧгноувши наполы мертва (Пак. Хр., 4б); корол тентран до своег полацу королевског ѡтвезен наполымртвыи [!] (Троя, 7б); пришол[s] есть на насъ страхъ вашъ великии вельми, иже суть ꙗкобы наполы мертвы живущие вси на земли сеи (Скар. ІН, 7); Потом зас гдъ бгъ справил, иж допꙋстил робакови же подгриз ѡнꙋю тиквꙋ, а напꙋстил великꙋю горꙗчост ѡт слонца на головꙋ иѡны з чог был ꙋтрапен наполы за мертвог лежал (Бельск., 136); так все тѣло его посѣкши бичами и поранивши, а наполы мертвым зоставивши вкинули его до темницы (Пралог, 485). *Параўн.* наполмертвый.

**Наполынагий** *прым. Напаўраздзеты, паўраздзеты.* его ... в коротко[s] сꙋконце наполынагого на велблюда всадили (Бельск., 382б).

**Наполыубитый** *дзеепрым. Ледзь не забіты.* ѡдин раз зацныи дворꙗнин цесаровои хрстиꙗнин каменем был наполы убитыи и зранен (Жыц. св., 51).

**Наполыумарлый** *дзеепрым. Тое, што і* наполыумерлый. тыеж мещане ... тогож зятя его ... змордованого, а праве на полы умарлого ... биючи у зашиекъ, отволокли до турмы свое (АВК, XXXIX, 61, 1578).

**Наполыумерлый** *дзеепрым. Напаўмёртвы; ледзь жывы.* да такъ оу тых бедах ѡтослал назад до пилата оужо какъ наполы оумерлого (Пак. Хр., 9); так ѳилименис будучи ѡкрутне зранен спал с конѧ наполыꙋмерълыи (Троя, 23б); король Жыкгимонт ... будꙋчы в старости лѣт своих розънемогсѧ в которои хоробе вжо на полы ꙋмерлыи прывезенъ до Кракова (Рач., 354); лежал дари[s] наполы ꙋмерлы[s] (Алекс., 21б); петръ заклинач хрстианин, которого есте змꙋченого и наполы ꙋмерлого ховат ꙋ вꙗзеню казали (Зб. 752, 553б); ѡто ꙋже ѡти[s]ти мушꙋ. То вирекши ѡтшолъ [бѣсъ], а тѣло наполы ꙋмерлое зоставилъ (Пралог, 603б). *Параўн.* наползумерлый, наполыумарлый.

**Напомененый** *дзеепрым. ад* напоменути (напомянути) *ў* 1 *знач.* тогды на сесь же часъ будучы вси станове ... отъ его кролевъской милости напоменены, абы около того радили, мыслили и на конецъ становили, которымъ бы обычаемъ ... отъпоръ онымъ непрыятелемъ мелъ чыненъ быти (КПД, 212, 1551); про тож Атылѧ, будучы тою ворожкою напомененыи, того-ж днѧ почалъ места лепеи и потужнеи добывать (Атыла, 223); будучы отъ насъ боязнью Божою напоменены и порозну пытаны, вси згодне сознали (АСД, III, 88, 1617).

**Напомененье** *наз. Указ, указанне.* За которымъ же постановленьемъ и напомѣненьемъ господарскимъ ... повѣдили то черезъ подчашаго господарьского (АЗР, III, 44, 1551); За которымъ же постановеньемъ и напоменен[ь]емъ господаръскимъ ... князи, панове ... поведили то черезъ подчашого (КПД, 216, 1551).

**Напоменути** *гл.* напомянути

**Напоменуть** *гл.* напомянути

**Напоминальный, напоминалный** *прым. Якім напамінаюць, паведамляюць, папярэджваюць аб чым-н., заклікаюць да чаго-н.* правдивой вѣры стли и причетници, которогоколвекъ степени и станоу, и моци, вѕ справахъ свѣцкихъ, жаднымъ згола, или болшого, или меншого сꙋдьи выcivрокомъ напоминалнымъ до посторонныхъ соудѡвъ нехай не боудоу*т* потѧгани (Апакр., 136—136б). ◊ Н а п о м и н а л ь н ы й  л и с т ъ — *гл.* листъ.

**Напоминане** *гл.* напоминанье

**Напоминание** *гл.* напоминанье

**Напоминаный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* напоминати *ў* 1 *знач.* нехай бы таковые прозьбы и напоминанья отъ васъ до его королевской милости не приходили, а ни были напоминаны (АЗР, III, 26, 1551); Прото и мы симъ словомѕ напоминанiи бываемъ, абы есмо добрие дѣла чинили (Будны, 180б); кгдымъ вже былъ на остатнемъ стопню на шубеницу, еще былъ напоминанъ отъ зацныхъ людей, абы патеръ измовилъ (АВК, XVIII, 52, 1582); мнѡго прикладовъ маемо того, же и онъ былъ ѡ*т* инши*х* а по*д*ча*с* не ласкаве, але сꙋрове напомина*н* (Апакр., 118); Дидона бꙋдꙋчы с то*г* жалоблива хотѣласꙗ мно*г* кро*т* заби*т*, але се в то*м* пи*л*новано прето през со*н* напоминана абы пре*ч* ехала с то*г* краю (Бельск., 112).

**2.** *Ад* напоминати *ў* 2 *знач.* часто вѕ цр҃кви бываючи ... ѡ*т* пророкѡвъ напоминаны бываемо (Каліст, II, 121); каждаѧ

д҃ша в[s] свѣтѣ сѣмъ ... роскошꙋючаѧ ... ѡ*т* Бг҃а напоминана бываетъ (Там жа, 187).

**Напоминанье, напоминане, напоминание, напоминанэ** *наз.* **1.** *Настаўленне, наказ, павучанне.* его королевская милость добрѣ рачитъ вѣдати, безъ кождого такового напоминанья вашого, яко маетъ ласкою и вряды своими шафовати (АЗР, III, 26, 1551); ꙋчитель наказаніемъ, поꙋченемъ и напоминанье*м* заховуеть людей ѡ*т* дх҃вное гнили (Будны, прадм., 7б); Атылѧ ... зобравшы до себе жолнеры, учынил до них напоминанэ тыми словы (Атыла, 191); приню*л* вдю*ч*не пророцкое напомина*не* иѡсафа*т* (Бельск., 124); Наꙋка бовѣмъ часо*м* маетъ в[s] собѣ слѡва оутѣхи, напоминан[s]ѧ и рады (Каліст, II, 74б); бысь сѧ бы*л* никгды не родилъ ани на свѣтъ вышо*л*, кгды*с* мѣлъ быть ... ѡ*т*цевскои приѧзни и напоминаньѧ ѡ*т*стꙋпникъ (Варл., 217); сынꙋ при сме*р*ти твое[s] або часꙋ хоробы стара[s]се ме*т* при собе перъсоны дꙋховные, которые бы добрꙋю радꙋ, и *с*ветые напоминаню чынили (Зб. 255, 351б); припомнѣвши собѣ напоминаніе ѡ*т*ц҃а своего оумираючаго. абы поты бывъ в[s] цр҃кви, ажъ поки всѧ слꙋжбы Бж҃іѧ не скончат[s]сѧ, встꙋпивъ до каплѣцы (Зб. вып., 31б). *Параўн.* напомненье *ў* 1 *знач.*

**2.** *Просьба, угавор.* они зъ обудвухъ сторонъ на напоминанье его ничого не дбали (АВК, XVIII, 127, 1594); Иванъ не хотечы до далшое росправы приступовать и не слухаючы того напоминанья, упорне зъ права зышолъ и зникънулъ (ИЮМ, VIII, 327—328, 1614); Моленіе: Проше*не*, приповѣда*не*, причиненьесѧ мл҃тва, прозба, молба, покорнаа прозба, напоминанье (Бяр., 81); котори[s] теды напоминане*м* прозбою и грозбою великою до ѡ*т*рече*ню* в хри*с*та вѣри Ст҃ои притискалъ и нудилъ ихъ велъми (Пралог, 582).

**3.** *Заклік, зварот.* Тыми словы дѣеписъ замыкаетъ свое рꙋского нарѡдꙋ напоминанье (Апакр., 204); Зшиковавши по*л*ки свои, и короткое напомина*не* кꙋ смѣломꙋ потыка*ню* до жо*л*неро*в* ꙋчинивши на во[s]ска рꙋские ꙋдари*л* (Стрыйк., 475б); Напоминанье Ісꙋса до Ізраилтѧнъ (Хран., 171б).

**4.** *Указанне, апавяшчэнне.* цыншы и всякіе платы подданые во всихъ замкахъ и волостяхъ нашихъ ... будуть отдавати, за напоминаньемъ войта своего (АЗР, III, 79, 1567); котораѧ сума пн҃зе[s] за ѡчевистымъ ꙋ права мовеньемъ сторонъ або ихъ ꙋмоцованы*х*, сказана будеть, в томъ такового ѡбвещеньѧ и напоминаньѧ не буде*т* потреба (Ст. 1588, 252); панове колекгове ихъ ... за позвы по себѣ вынесеными поспомъ зъ нами

особами духовными за непоодпократнымъ напоминаньемъ и взываньемъ засѣдать и отсуживать ... не хотѣли (АВК, VIII, 89, 1609).

**5.** *Успамін.* што ѡ*н* видѧчы и научивъшисѧ ижъ все в то*м* котори[s] его покреплѧл в хрстѣ може*т* и не то*л*ко през славъное напомина*н*е тыхъ которие до него длѧ пожитъку своего приходыли, научати хотѧчи (Пралог, 560б).

**Напоминати** *дзеясл.* **1.** *Настаўляць, навучаць, павучаць, наказваць.* Моисеи напоминаеть людеи абы хранили заповѣди гсдьнѧ (Скар. ДЗ, 12); которыи паметаючы на ѡбъфитост земли угорьскои, частокроть сыны свои напоминал, абы коли доростуть, угорское земли ѡпѧт доставали (Атыла, 235); которого помаза*н*ѧ прикладъ напоминаетъ насъ, ѧкими быти маемо (Апакр., 62); коли се зошли до него, тогды и*х* поча*л* напомина*т*, абы вси споко[s]не жили (Алекс., 45); длѧ того с҃щенникъ ба*б* маеть напоминати, абы ѹмѣли слов*а* которыми совершаетсѧ кр҃щеніе (Навука, 19); Въразѹмлѧю: Наѹчаю, напоминаю, наказѹю, мѹдрым[s] чиню, карѹ (Бяр., 23); вшедши на бронѹ просилъ и приказаньемъ оц҃евскимъ напоминалъ Ісава брата своегѡ абы се такъ тиранско не обходилъ (Хран., 59); повѣнны еднакъ Іереи, напоминати людей, абы Слѹжбы Бж҃іеѧ слѹхали (Зб. вып., 29б).

**2.** *Напамінаць, паведамляць, апавяшчаць, папярэджваць; прасіць, угаворваць.* Напоминаемъ васъ: которымъ купцомъ нашимъ будеть до вашихъ людей дѣло, абы есте судъ и право имъ давали безъ отволоки (АЗР, I, 93, 1480); мы твою милость, брата нашого, благославляемъ и напоминаемъ, абы твоя милость ... въ томъ ему жадной переказы не дѣлалъ (АЗР, III, 20, 1548); напоминал, просил, абы того што почали не переставали (Атыла, 224); Иван ... прыехавшы заразъ, почалъ напоминать, абы такового кгвалту у дому его не чынилъ (АВК, XXXVI, 221, 1582); если хто третій в розмовѹ межи двѣма початѹю вмешав[s]сѧ, то*т*же лѧикъ напомина*л* (Апакр., 54б); напомина*л* Боболецки[s] ѹрѧдника мѣста ѡного абы емѹ его выда*л* (Стрыйк., 632б); напоминали его, абы того не чынилъ и малженство не розрывалъ (ИЮМ, VIII, 327, 1614); ты*х* которые з ни*м* были напоминалъ, ѹтека[s]те мови*т* а пру*д*ко (Зб. 752, 556).

**3.** *Звяртацца да каго-н., заклікаць.* Напоминаю такъже васъ приступити к книзе сеи з доброю волѣю (Скар. ЛК, 1б); ѧко на*с* самъ гд҃ь сими словы ѹпѣвнѧючи, къ смѣлости напоминаеть, и власи главы вашеѧ вси изъчтени суть, не боитесѧ (Будны,

118б); Тэωдорык король, Тразымундов ωтец, кгды на коню ездечы своихъ до битвы напоминалъ, ωт некоторого угрына стручоныи с конѧ на землю был в битве патоптаныи (Атыла, 197); таким богом служишъ котории тебе напоминают зле чинити (Алекс., 34); опеку злецаю и поручаю ... сыномъ моимъ всимъ чотыромъ ... которыхъ прошу и напоминаю черезъ имя Божое, абы се их милость статечне и пристоине противъ той дочцѣ моей заховать ... рачили (АВК, XII, 546, 1612); ωнъ почал его до вшелѩкое чыстости и встыдꙋ напоминати (Зб. 107, 178—178б); прошꙋ прето и напоминаю вас наѕмилшаѩ братѩ, мꙋжне и смѣле сѧ застановѣмо, противко тмѣ вѣка сего и владики (Пралог, 495б); В том Ѱалмѣ ... напоминает кождого до розмышлѩнѧ дивных справъ Б҃жих (Пс. XVII, 24).

**4.** *Успамінаць.* on napominaiuczy łasku welikoho kniazia Kazimira, y horko propłakiwaia (Бых., 540).

**5.** *Запытвацца, пытацца (у каго-н.)* Про то напоминаемъ тебе, съ твоимъ ли то ведомомъ будуть люди твои въчинили (КЗ, 446, 1486).

**Напоминатися** *дзеясл. зв.* **1.** *Напамінаць аб сабе.* коли ся хто до тыхъ местъ не напоминалъ, бо коли быхмо речи замолъчаныя до тыхъ местъ възрухивали, была бы въ томъ великая тяжъкость людемъ (КЗ, 405, 1486); тотъ Лукашъ и Болътромей отъ колька летъ не молъчали, а о то ся напоминали (Там жа).

**2.** *Звяртацца да каго-н. (з патрабаваннем).* котораѩ жонъка менит собѣ дѣдичство прилꙋчаючи веномь а десѧть лет не ωтбыла а люба замешкала а то дедичство жалобы чинѧт а любо сѧ напоминаеть (Вісл., 21).

**Напоминаючий** *дзеепрым. ад* напоминати *ў* 1 *знач.* Послꙋхаймо братіе Пророка Б҃жого Захаріи о томъ мовѧчого, а насъ напоминаючого: злости брата своего, мовитъ, нѣхто на памѧти срдца своего нехай не носитѕ (Каліст, I, 31б).

**Напоминокъ** *наз. Напамінак, зварот, заклік.* жаднымъ, ани выводом ани напоминком в речы до збавенѩ потребнеѕ и пожитечнеѕшоѕ наклонитсе не дадим (Зб. 255, 274б).

**Напомнене** *гл.* напомненье

**Напомнение** *гл.* напомненье

**Напомненый, напомненный** *дзеепрым. ад* напомнети *ў* 2 *знач.* панъ Ясиньский, коли ... листомъ его милости обосланъ и напомненъ будеть ... будеть виненъ учинити и листы и вси твердости отъ мала и до велика (АВК, XX, 17, 1568); где бы хто

таковы^s^ былъ жебы два врꙗды сꙋдовые або инъшие земские деръжачы, а напомненъны^s^ *ѡт* шлꙗхъты на рокохъ судовыхъ або на со^s^микꙋ пꙋстити *ѡд*ного которого врꙗдꙋ не хотелъ (Ст. 1588, 123); ꙗ *ѡт* пн҃а су*д*и того*ж* то пн҃а зе*н*кевича напомнены^s^ а не зэзволꙗючи з мно*ж*ствэ*м* люди на злама*н*е ты*х* роко*х* при не*м* преставши судили*х*мы е (Еўл., 45); иѡсифъ ... боꙗлсꙗ та*м* ити але напо*м*нены^s^ во снѣ ꙋстꙋпи*л* в стороны галиле^s^ские и в назаретѣ мѣсте*ч*ку чотыры роки перемешка*л* (Бельск., 202); жебысь ты волею приближаючисѧ до Гсда напоминен^s^ былъ до оуваже*н*ѧ ласки (Мак., 257); Раз^s^ сѧ трафило же засталъ Каина в^s^ гꙋстомъ лѣсе в^s^ глодꙋ таѧчогосѧ: которыи Ламехъ напомненыи *ѡт* провадника своегѡ мнимаючи же звѣръ ꙗкій стрѣлою пробилъ (Хран., 13—13б).

**Напомненье, напомнене, напомнение** *наз.* **1**. *Тое, што і* напоминанье *ў* 1 *знач.* Епископіе синодалные згромаженьѧ, кꙋ напомненью толко албо направенью, але не кꙋ розстрыгненью и постановенью моцъ маю*т* (Апакр., 54б); Напомне*н*е моисеꙗ изра^s^леви (Біблія, 217); до всеи околѡ негѡ стоѧчеи дꙋховнои Братіи ... по напомненю и бл҃гословенствѣ *ѡт*цевскомъ ... реклъ (Сматр., 44); если мое напомненье знесешъ скромне, в^s^ страхꙋ Бж҃ом^s^ ско*н*чаешъсѧ (Мак., 11б); живꙋчи неоучтиве, по многихъ *ѡт* Іерեѧ напомненіѧхъ, нѣколи того грѣхꙋ не сповѣдавшисѧ оумерла (Зб. вып., 42б).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* напомнети *ў* 2 *знач.* хто бы тому былъ противенъ а за сказаньемъ врѧдовымъ тое вины и за напомъненьемъ ѡ заплатꙋ ее до трехъ разовъ, а заплатити ее не хотелъ (Ст. 1588, 206); хтобы ... справедливости учынить не хотѣлъ, таковаго врадъ за третимъ напомненьемъ ... грабить мaеть (АСД, I, 191, 1594); маючи тежъ около себе та*м*же в^s^ флоре*н*ціи незличѡнꙋю личбꙋ своихъ греческихъ епископѡ*в*, оустне пере*д* ними з напомненьемъ ихъ од тогожъ розꙋменьѧ тестаментꙋ того не оучинилъ, ани свѣдкѡвъ жадныхъ до оутверженьѧ его не оужи*л* (Апакр., 153); Вспомнимъ и мы, лечъ невчасъ его напомнен^s^ѧ, Поднебен^s^ю н҃шемꙋ горкіи з^s^збридзен^s^ѧ (Лям., 11); ꙗк^s^ за мѣсто вышли, заледве с трꙋдностю, и ѡстрымъ напомне*н*емъ и наконецъ срокгим^s^ загроже*н*емъ *ѡт* него ѡторвалисѧ и не хотѧчи вернꙋлисѧ (Варл., 334); кроль го*р*ды*и* не упаметалсꙗ ѡным напомнене*м* (Жыц. св., 4б); принесено ему ласковое *ѡт* королꙗ напо*м*неніе, и*ж* если бы хотѣ*л* волю его ꙋчинити мѣлъ быти пере*д*нѣ^s^шимъ в ласцѣ его (Зб. 107, 179б).

**Напомнети, напомнити** *дзеясл.* **1.** *Даць наказ, настаўленне; павучальныя парады.* Длѧ того и Гдь нашъ Іс Хс напомнѣвши насъ, абысмо постѧчи не были оунылыми ꙗкъ лицемѣрницы, которыи змѣнѧютъ тваръ свою (Каліст, I, 32б); напомнѣлˢ еи мꙋжъ бжій мовѧчи: николи не опꙋскай Црькви, нигды ѡ*д* причастіѧ таемницъ хвыхъ не ѡ*д*далѧйсѧ (Мак., 12б); По семъ напомнѣвши Іерей того который сповѣдаетˢсѧ, даетъ емꙋ раздрышеніе [!] ѡ*т* всѣхъ грѣховъ его (Зб. вып., 43б). *Параўн.* навпомнити.

**2.** *Напомніць, паведаміць, апавясціць, папярэдзіць.* естли бы которы*и* ꙋпорны*и* не маючи справы вшолъ а бꙋдꙋчы напомнень вы*и*ти не хоте*л* альбо в домꙋ сꙋдовомъ воланье чынилъ, таковы*и* кожды*и* мае*т* быти виною дванадца*т*ма копами грошe*и* литовскихъ каранъ (Трыб., 7б); врѧднико*м* наши*м* мѣстецъ оныхъ, где потреба бꙋдетъ, абы имъ в томъ помочни были прикажемо, и ины*х* абы томꙋ противни не были напомнимо (Апакр., 38); кроль до малбо*р*ку выехавши, пе*р*веˢ пре*з* послы напомне*л*, пото*м* позвы на ни*х* выда*л* (Хр. польск., 23); оди*н* мардохей не ꙋпада*л* ани емꙋ сѧ клан*ѧл*. Которогѡ напомнили слꙋги цр*с*кіи што се онъ аманови водлꙋ*г* цр*с*когѡ росказаньѧ не клан*ѧет* (Хран., 378б).

**Напомогати** *дзеясл. Памагаць, аказваць садзеянне, дапамогу; выратоўваць, выручаць.* мы быхмо предься его дарами великими напомогали, ино не вѣмы, што быхмо за помочъ съ того собѣ мѣли (АЗР, II, 346, 1538); не вемы, што быхмо за помочъ съ того собе мели, ижъ быхмо напріятеля не себе напомогали а скаръбы наши нищили и панъства наши ку убозству приводили (КПД, 8, 1538).

**Напомянаный** *дзеепрым. ад* напомянути *ў* 1 *знач.* мы е*ст* из великою пильностью пре*з* станы вшелꙗкие короны по*л*ское напомꙗнаны (Прыв., 107б).

**Напомянути, напоменути, напоменуть** *дзеясл.* **1.** *Напомніць; папярэдзіць, паведаміць, апавясціць; папрасіць.* просили мене о вижа, хотячи передъ вижомъ напоменути, жебы тыи рѣчи свои отъ нихъ и отъ пана Миколая побрала (АВК, XVII, 337, 1541); господаря его милости напомянули, абы чужоземьцы имѣней не посѣдали (АЗР, III, 25, 1551); су*д*ꙗ с по*д*судкомъ потрэбовали ... пе*р*веˢ сторо*н* напоменути абы все што было на праве покладали (Ст. 1566, 54б—55); судъ первеˢ нижли сторонъ або светковъ кꙋ сведецьствꙋ припустить маеть ихъ напоменуть и розважити абы паметали на пана бога на справедли-

**Нарицаемый, нарецаемый, нарыцаемый** *дзеепрым. Названы, называны, які называецца.* Въ повѣтѣ Дорогицкомъ лежачомъ, велѣли есмо постановити церковь въ Семятычахъ ... съ предѣлами святыхъ Апостолъ Петра и Павла и Преподобной Параскевіи, нарицаемой Пятокъ (АВК, II, 1, 1431); сѣлъ иванъ. на мѣсте нарицаемомъ феротопе (Чэцця, 7); с Немецькими силами поидѣ к Вилни. стретить его кнзь Скиргаило со братомь своимь Витовтомь и Литовскыми вои на реце на Вельи оу городка на месте нарицаеме [!] Веишишькы (Увар., 92); гаманъ ... стꙋжающи*х* все*х* юдѣянъ мыслилъ на юдѣяны погꙋбити и*х* и кида*л* пꙋръ нарецаемыи жеребеи замешати и*х* и загꙋбити и*х* (Зб. 262, 133); трава же нарицаемаѧ гаса*х*. взѧти еѧ два*и* золо*т*ники, с вино*м* выпити (Арыст., 207); Азъ Іѡанн[s] братъ вашъ и ѡбещникъ въ скорби и црствѣ и терпени Іс Хвѣ, бѣхъ въ ѡстровѣ нарицаемомъ Патмомъ за слово божіе и за свѣдительство Іс Хво (Будны, 45б); Тартаръ: ... скрежe*т* зꙋбный, нарицаемый Тартаръ (Бяр., 315); Дозналъ тоеи жъ кары млдн*ц*ъ единъ в мѣстѣ нарыцаемом[s] Дꙋлѧка (Зб. вып., 23).

**Нарицанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* нарицати *ў* 1 *знач.* Именованіе: Нарицанье, менованье, называнье (Бяр., 57).

**Нарицателне** *прысл. Намінальна.* Цата: еллински, динаръ, нарицателнѣ, що десѧ*т* в[s] собѣ маетъ. собстъвнѣ, гро*ш*, що десѧ*т* пѣнѧзей плати*т* (Бяр., 201).

**Нарицати** *дзеясл.* **1.** *Называць.* воземъ ѡфанасеи чашю. налиꙗлъ. и примесилъ своее чары и ѡсмы бѣ*с* имены нарицаꙗ. далъ стому геѡргею испиті (Чэцця, 178б); по дамаскинꙋ оубо поꙗсы наричютсѧ по евреиски же нбса ѡбычаи бо писанью и воздоу*х* нбо*м* нарицати (Неба, 61); ꙗвне бо ѡны*х* ѡ*т*ступники зоветь, которыи возбранѧють женитисѧ, тое пакъ возбраненіе ꙋченіем[s] бѣсовскымъ [!] нарицаеть (Будны, 28).

**2.** *Прызываць.* ꙗко ꙋчинилъ Апостолъ Павелъ, которыи въ второмъ посланью къ Коринфомъ кленетсѧ тако, сведетелѧ нарицаю Бога на душю мою (Будны, 20б—21).

**Нарицатися, нарецатися** *дзеясл. зв.* **1.** *Называцца.* как нарицаетсѧ имѧ твое осподине мои (Чэцця, 83б); нарицаетсѧ сиѧ Книга Премудрость того ради, понеже пишеть в неи о премудрости вечнои (Скар. ПБ, 2); Притчи же нарецаютсѧ Евреискымъ ꙗзыкомъ Масшлоѳъ (Скар. ПС, 2б); Сии вси писма нового и ветхаго закона восполок[s] собраниѧ нарецаютсѧ Библиа (Скар. ПЦ, 3б); Скажи ми чого длѧ зложеніе

вѣры символон^s нарицаетсѧ, што *ест* за слово (Будны, 113б); Паппа: Сѹгѹбое п, дѣтей бра*ш*но *ест* ѡ*т* имене хлѣба, иже Латінски Панісъ нарицаетсѧ (Бяр., 102).

**2.** *Указваца, адзначацца.* гй ѡ*т*пѹсти гй врозѹмѣи и оучини не замешкаи себе ра*ди* бє мои имѧ бо твое нарицаеть*с* на градѣ твоемь и на людe*х* твои*х* (Зб. 262, 123б); ꙗкоже рекъ мѹдрыи лекарьство ма*с*терьство нарицаетсѧ во книга*х* и величаетсѧ ею глоупыи лекарь (Арыст., 220).

**Нарицающий, нарыцающый** *дзеепрым. ад* нарицати *ў* 1 *знач.* Сей Ап*стл*ъ, гл҃ющѹ тако ... многа зла сотвори ст҃ымъ въ Іерѹсалимѣ, и мѣлъ власть ѡ*т* Архиереи свѧзати всѧ нарыцающыѧ имѧ Хв҃о (Зб. вып., 88); проклѧтъ естъ Несторій ... оучащій Хр*с*та быти проста чл҃вка, а не Бг҃а, и Дв҃ѹ Мр҃ію не Бц҃ею, но Христородицею нарицающій (Там жа, 92).

**Нарицающийся** *дзеепрым. ад* нарицатися *ў* 1 *знач.* намъ подобае*т* вѣрны*м* хр*с*тьꙗно*м*, х*с*вымъ именемь нарицающимсѧ, заповеди его творити и блюсти (Чэцця, 333).

**Наробити, наробить** *дзеясл. Нарабіць.* который тот шафар ... попелов не мало наробивши, зъ стороны плаченя тое пневщины зо мною постановил (АВК, XXXVI, 424, 1590); прето собѣ да*л* нароби*т* возо*в* ездны*х* (Бельск., 111); коли полѹпили в рѹски*х* землꙗ*х* плѹги и лемешѣ на кие до*л*гие воло*ч*ни наробивши ѡсадили и до стрѣ*л* те*ж* железѣ*ц* начинили (Стрыйк., 516б); кѹпецъ ... шлетъ до своихъ, жебы емѹ домѡвъ и ѡгородовъ набѹдовали, и шатъ потребныхъ наробили (Мак., 171); снать бы дей и большъ злого наробили были бы некоторые люди одъ такъ злого завзятого умыслу не погамовали (АВК, XX, 292, 1629); Ассарій ... Пѣнѧзь ... Нѹмма а҃ ца*р* рымскі*и* по ромѹлѣ, каза*л* наробти з^s жел҃ѣза и з^s мѣди, бо пре*д* ни*м* монета глинѧнаѧ и скорѧнаѧ была в^s Рымѣ (Бяр., 239); при^sдешъ до го*н*чара а ѡбачишъ же наробилъ го*р*щковъ великихъ и малыхъ (Зб. 259, 272б); Поденщикомъ, десяти человекомъ по асмаковъ шестнадцать, суполного дня наробили заплаты золот. пять и асмак. десять (ИЮМ, І, 245, 1682).

**Наробляти, нарабляти** *дзеясл. Рабіць насуперак; пярэчыць, супярэчыць.* Ѳедко ... помененую суму ... обовезалсе отдат ... ничым се не вымовляючы ... и не нaробляючы в томъ противъ помененому Игнату ... вшелякими оборонами (АВК, XXXIX, 519—520, 1579); которые гршы ... обовезал отдат ... от таковое заплаты ничым се не вымовляючы ани закрываючы ... и не

наробляючы в томъ против помененому Ходку ... вшелякими оборонами (Там жа, 549); ани ѡдна часть без дрꙋгое, пана собе ѡбирати, ани спикненьемъ ѡсобливыхъ зъ инъшыми нараблѧти, але ... зъехатисе до громады корꙋнное и сполне а споко^s^не тꙋю справꙋ ѡбиранья пана водлугъ воли божое до скутъку слушного привести (Ст. 1588, 68); тыми такими писмы непевными, не годилосѧ тобѣ противко намъ нароблѧти, и волно намъ ничого не всѣ з них приточеные свѣдецства ꙗко фалшивые, не ѡтповедати (Апакр., 106б); вѣдаю ижь потомъ блоудꙋ несторіевого на соборѣ константинополскомъ ѡтстꙋпил протож тымъ противко дѣеписови не нароблѧю (Там жа, 121).

**Нароблятися** *дзеясл. зв. Захапляцца, цікавіцца.* иж сѧ ласкавый чительникꙋ в том ѡтвѣтѣ так часто ꙗко обачиш противко дѣеписови пытаньемъ нароблѧетъ, чинитсѧ то длѧ того, абы где бы зась хотѣлъ намъ ѡтписати ... нехай же на все ѡтповѣдаетъ (Апакр., 6б).

**Наробяти** *дзеясл.* **1.** *Рабіць што-н. насуперак, супрацьдзейнічаць; супрацьпастаўляць.* ꙋхватилисѧ ѡбадва жарко в запасы, печенѣг грꙋбостю тѣла, а рꙋсин чирствостю наробꙗл (Стрыйк., 448); печениг ... ꙋдарил кгвалтовне кꙋлаком на ѡног малог, але ѡн хибкостю наробꙗючи вскочил емꙋ зразꙋ прꙋдко з мѣстца (Там жа).

**2.** *Рабіць што-н. больш даказальным; нарошчваць, нагрувашчваць доказы; прыводзячы іх, жангліраваць, злоўжываць імі.* в чомъ постꙋ поует собѣ звычаем прокураторов, котѡрые оу соудꙋ бачачи, иж справꙋ несправедливꙋю и пройгранꙋю мают, не вдаютсѧ в споръ спервꙋ, але пристꙋпами, ꙗко то зовоутъ наробѧючи, боурѧтъ постꙋпокъ, задаютъ сꙋдіи неналежность, и прочаѧ (Апакр., 70); Потомъ выводит^s^, же ... петръ стꙑй в римѣ оумираючи, привильѧ на то свои ѡтдалъ. в чомъ наробѧетъ свѣдецтвы нѣкоторыхъ докторовъ, наробѧет^s^ прикладами звирхности, перед римскіе бискꙋпы, ркомо над всѣми всего свѣта костелы ростѧгненой (Там жа, 92—92б); дивно ми заправды, же такими марными, а до речи неслоужачими доводами противъ намъ смѣешъ наробѧти (Там жа, 116б); не такъ в^s^ тое што было, ꙗкъ в тое што быти слоушне мѣло, оуглѧдовати и лепѣй правилы, нижъ прикладомъ моудромꙋ наробѧти потреба, признаваю (Там жа, 140б).

**3.** *Займацца; праяўляць цікавасць да чаго-н.* въ суды Божіе вдаешся, и зъ другое стороны и плётками наробяешъ (Пыт., 26).

**Наровнейший** *прым.* **1.** *Самы гладкі, без упадзін і ўзгоркаў.* тѹ розбиша шатры своѧ ѡ*т* Весимофы горы и даже до велзамима на наровнеишихъ местехъ Моавскихъ (Скар. ЛК, 69б).

**2.** *Самы значны, важны.* панъ воевода то Оленскому позоляетъ, же не только вольный шляхтичъ, але и наровнѣйшій ... сажанъ быти не маеть (АВК, II, 297, 1595).

**Наровникъ** *наз. Той, хто дзейнічае ў карысць каго-н.* Слуга и наровникъ Михайло Ѡксаковъ твоей милости низко бьеть (КСД, 1490, 1520).

**Наровно** *прысл. Пароўну.* тое именье смольвеньское наровно поделившы кожъды<sup>s</sup> свою половицѹ де*р*жати ... маютъ (КВС, 614б, 1552).

**Наровновати** *дзеясл. Ураўнаваць, зрабіць роўным, аднолькавым у якіх-н. адносінах.* панове ихъ милость отынуль тое его милости грошми наровновали (АСД, VII, 10, 1520).

**Нарогъ, норогъ** *наз. Нарог, сашнік; жалезная частка сахі, якая падразае зямлю.* ковшь великій деревенный, желѣза двѣстѣ крыцъ и 8 крицъ нороговъ девеносто сохъ (АСД, VIII, 15, 1520); осталъ намъ обеемъ виненъ чотыри копы безъ десяти гроши за нароги (АВК, XVII, 283, 1541); взялъ с клети ... косъ шесть, колеса д҃ (4), нороги і҃ (10) (АВК, XXI, 232, 1556—1557); то*т* мае*т* шкоду платити ... за сохѹ дес*ѧт* грошe*и* за нароги двана*д*ца*т* гроше<sup>s</sup> (Ст. 1566 I, 76б); из дому дей моего згинуло нарогов пар шест (АВК, XXXVI, 295, 1582); у него побрали ... нароги съ полицами (АСД, I, 181, 1590); Мечовъ два, рожновъ великихъ два, сѣкера тесельска одна, просѣкъ секеръ домовыхъ три, нароговъ паръ чотыри (АВК, VIII, 466, 1593); нароговъ сохъ пять, купленые по осми грошей литовскихъ (АВК, XXVIII, 79, 1605).

**Народженье** *наз. Дзень, дата, калі хто-н. нарадзіўся.* Лета Божего народженя тысеча пятьсотъ пятьдесятъ третего индикта одинадцатого (АВК, XXIV, 137, 1553).

**Народившийся** *дзеепрым. ад* народитися ў 1 *знач.* та дх҃*ом* ст҃ымъ исповедала хса плотию народившегосѧ (Чэцця, 138б).

**Народити** *дзеясл.* **1.** *Радзіць, даць жыццё каму-н.* тебе прекрасного надо вси сн҃ы чл҃вче народила есмь (Пак. Хр., 14б); сара ... рекла мужеви своему ѡто замъкнѹ*л* мнѣ богъ, абы*х* народила (Біблія, 42). ◊ Я к о  м а т к а  н а р о д и л а — *зусім голы, без ніякага адзення.* бы*л* нагъ, ѩко матка его была народила (Біблія, 39); былъ нагъ ѩкѡ матка его народила (Хран., 25б).

**2.** *Тое, што і* народитися ў 1 *знач.* сталасѧ мова гсднꙗ до мене мовечи ... сынъ который тобѣ народитъ, бꙋдеть мꙋжь велми спокойны*и* бо егѡ оупокою *ѡт* всихъ непріѧтеліи егѡ (Хран., 284).

**3.** *Даваць ураджай, быць урадлівай (пра зямлю).* тыхъ речеи еже сама землѧ с[s] себе народить не будеши жати (Скар. КЛ, 47).

**Народитися, народитисе** *дзеясл. зв.* **1.** *Радзіцца, з'явіцца на свет.* оуслышавши геродъ иже коро*л* жидовскіи народи*л*сѧ бы*л* оу бетлеемъ велѣлъ вси детки перебити (Пак. Хр., 21); тако и мы народившисѧ скоро преставаемъ быти (Скар. ПБ, 8б); Безъ родителей бо на свѣтъ никто не народитьсѧ: але хотѧжь сѧ *ѡт* родителей кто народить а добрым[s] норово*м* не наставитьсѧ, што за пожиток[s] с[s] него будеть (Будны, 51б); кождый чоловекъ, который се на свет народил, смертю с того света зыти муситъ (АВК, XXXVI, 395, 1590); Слышачи то нѣкотории з сѣдꙗчи*х*, имене*м* лиси*ꙗ*, реклъ до царꙗ: з клеѡпатри народи*т*се сы*н* тобѣ подобны[s] (Алекс., 73); Д͠шꙋ бовѣмъ твою ꙗкось сѧ народилъ, до днѧ нн͠ѣшнего чи моглесь познати (Мак., 110); не вѣдаю, ꙗко тое быти мае*т*, абы ѡтецъ народилъсѧ з цо*р*ки (Зб. 259, 540); Что чинити треба, ежели длѧ великихъ болизней матки, дѣтѧ не могло сѧ народити (Зб. вып., 8б). *Параўн.* народити ў 2 *знач.*

**2.** *З'явіцца, пачацца; узнікнуць; завесціся.* Лѣта третиего *ѡт*делиши иную десѧтинꙋ *ѡт* всехъ речеи еже народѧтсѧ тобѣ тогда (Скар. ДЗ, 31б); он[s] же бы сѧ навратилъ *ѡт* ада прѣисподнего. ꙗко из[s] ничего жъ народихомсѧ (Скар. ПБ, 4б); наприкладъ коли з[s] хлѣба ѡсобъ презъ недозоръ каплана, народитсѧ робацтво (Зб вып., 22—22б).

**3.** *Паходзіць па нараджэнню з якой-н. мясцовасці.* речено есть место дв͠дво. того ... дела [!] иже дв͠дь с него бы*л* народилсе (Валх., 43).

**Народовъ** *прым. ад* народъ. аще же ти радить взяти товаръ наро*д*овъ вѣдаи иже злонравенъ е*ст* (Арыст., 157).

**Народовый** *прым. Народны.* дочки ихъ будемо бра*т* за жоны, а наши имъ дава*т* ѡдна речь есть которою сꙗ ѡтꙗгаю*т* на*м*, але и та добра, если ѡбрѣжемо му*ж*чизны наши народовому ѡбычаю наслѣдꙋючи (Біблія, 74).

**Народъ** *наз.* **1.** *Род, племя; патомкі.* ѡнъ есть з народꙋ хамового сына ноевого идꙋчи[s] (Біблія, 36); Ѡ народѣ иꙗкова с которы*м* вшо*л* до египтꙋ (Бельск., 35б); *с*присꙗглысе изра-

илтꙗне жодномꙋ [!] з народꙋ вениаминовог дѣвки своеи не даван в малженство (Там жа, 76); Неврод ... сын хꙋсов, з народꙋ гигантов, або ѡбримов правнꙋков ноевых, тот вˢ валонѣи наперве ˢ сам так сꙋрово пановат почал (Стрыйк., 417б); Ѡттул значилосꙗ иж тоˢ лездеˢко был значног ꙗкогос албо з кнꙗжацког народꙋ (Там жа, 537б); Амаликъ, который намовилъ дѣда своегѡ Ісава абы скꙋпивши войско и забилъ Іакова брата своегѡ, а народъ егѡ весь зˢ земли згладилъ (Хран., 59). ◊ Народъ людский — *род чалавечы.* хс҃ мѣл выбавити народъ людскиˢ з неволи шатанское (Зб. 261, 226б); Того часꙋ ввес народ людскиˢ з виншованꙗ ноевог ест на три поваги роздѣлен, то ест свещенники, рицери, и хлопы, албо слꙋги (Бельск., 10); коли се так народ людскиˢ з трех синов ноевых вˢ великꙋю а незличонꙋю великост розмножил (Стрыйк., 416); многие шкоды народови людъскомꙋ в розныхъ краинахъ тресене земли починило (Зб. 259, 166).

**2**. *Радаслоўе, радаслоўная; пакаленне ў радаслоўнай.* Тꙋю историю длꙗ того наболшей приписано, абысмо вѣдали, народъ исус Хрста, водлуг тѣла мѣлъ быт з родꙋ дѣдового которіˢ пошолъ з рꙋфы (Біблія, 140); персове ѡт елꙗма сына симова а внꙋка ноева народ ведꙋт (Стрыйк., 417); там киринею мѣсто заложил ѡтколꙗ цыгане народ своˢ хочут выводит (Там жа, 418б); Еслиж теды седмерако (або в семымъ народѣ) был земщонъ каинъ, тедыж ламех седмъдесꙗт крот седмерако, то ест далеко болшеˢ земщон и покаран бꙋдет (Выкл., 7).

**3.** *Пол.* никому иншому съ близкихъ кревныхъ моихъ, такъ музского, яко и женского народу (АВК, II, 212, 1580); крол египетскиˢ росказал бабам жидовским, которие положницам слꙋжат, абы кождое дѣтꙗ музского народꙋ забивали а дѣвкам покоˢ дали (Бельск., 40б).

**4.** *Людзі; народ.* мнози же народи прихожахоу к немоу (Чэцця, 5); казалъ гледети в регестре ... если з того народу верху писаного моглъ бы се оказать где кольвекъ (АВК, XXIV, 89, 1534); там учынившы водле звычаю народу своего Марсови ѡфѧры ... вытѧгнул з воискомъ до других французских мѣст (Атыла, 203—204); всѣ мѣста и замки бꙋрили а народ сѣкли и в неволю брали (Тр. гіст., 69); кроль болеслав ... вѣрꙋ хрстиꙗнскую з народом своим хотѣл принꙗт (Хр. польск., 5б); Который то нарѡдъ алˢбо которые люди тамъ боудꙋтъ мешкати (Карп., 7б); Апл҃ѡмъ росказалъ крестити вси нарѡды (Дзід., 4);

Розсуди мене Бж҃е а розезнаˢ справу мою ѡ*т* народꙋ немилосердного, а *вы*р*ви* мене ѡ*т* чловѣка несправе*д*ливого и хи*т*рого (Пс. XVII, 19).

**5.** *Група асоб, аб'яднаных тымі ці іншымі адметнымі ўласцівасцямі, супольнасцю маёмасных і саслоўных інтарэсаў, палітычных і рэлігійных поглядаў.* Многии же народъ людеи неверныхъ не будеть ꙋжиточенˢ (Скар. ПБ, 7); вышэ*и* ѡписаные заклады никому такъ з бо*л*шых ꙗко и низшых стано*в* шлꙗхэ*т*ского народу даваны быти не маю*т* (Ст. 1566, 14б); мы гсдръ тꙋю маетьность роздавати моцъни и вольни бꙋдемь, людемъ народꙋ шлѧхетского, намъ и речы посполито*и* заслꙋжонымь ꙗко властъные спадки свои (Трыб., 13б); ижъ нѣкоторые розные особы пущи и озера, до которыхъ вольный вступъ народъ шляхетскій земли Жомойтскоѣ маетъ, до имѣньевъ своихъ привлащили (АЗР, IV, 3, 1588); Того*ж* рокꙋ хг҃ наро*д* божиˢ знизꙋ до домо*в* свои*х* назадъ пошолъ (Барк., 167); которые были просто*г* низко*г* народꙋ и ꙋбого*г*, звани такие плебеи (Бельск., 145); Которˢ ачъколвекъ бы*л* с простого народꙋ але се такъ добре захова*л* бы мѣ*л* быти на дворѣ кроле*в*скомъ выхованыˢ (Хр. польск., 3б); длꙗ наꙋки дѣтеˢ народꙋ христіанского всꙗкого стану кꙋ ѡздобе и пожи*т*кꙋ речи посполитое позволꙗе*м* и*м* мѣти школу греческого лати*н*ского по*л*ско*г* и руского ꙗзыка (Дыяр., 155).

**6.** *Людзі, якія належаць да адной этнічнай ці расавай супольнасці; народнасць, нацыя, народ.* Ра*д* покажоу мою вѣроу, которꙋю маю, а злаща народоу своемоу роускомꙋ (Цяп. Прадм., 267); за ними мѣста и инъшыи французского народу (Атыла, 193); тые староства ... абы были даваны людемъ народу Литовского, у великомъ князствѣ Литовскомъ добрѣ осѣлымъ (АЗР, IV, 2, 1588); тогды и то певънаѧ же се антихристъ народити маеть з нарѡдꙋ и людꙋ жидо*в*ского (Унія, 39—39б); не естесмо греками всѣ але а то нѣкоторыи и роуского и литовского народꙋ (Апакр., 39б); наро*д* жидовски*и* наперве*и* ѡ*т* патриа*р*ха Авраама почали (Царств., 81); также значны были наши рꙋсацы грецки*м* и лати*н*ски*м* гисторико*м* ꙗко и и*н*шие по*л*ночные народы (Стрыйк., 428); [п]отомъ пришли народове ѡколичныи и хотѣли вытрати*т* народъ жидо*в*скиˢ (Кн. Мак., 55б).

**7.** *Насельніцтва (краіны, горада).* велми сѧ възрадовали, з великим веселемъ прышли у Елиѡнос, тут со всим народомъ вчынили великое веселе (Трыст., 7—8); за добровольнымъ

ѡб8дв8хъ народовъ короны польское и великого кнѧзьства литовъского, ѡбраньемъ (Ст. 1588, прадм.); тыхъ вольносте[s] 8живаючи з суседы и братьею своею рицерствомъ, и иными станы народу кор8ны польское (Там жа, 66); где тепер московские и бѣлор8ские народы мешкают (Стрыйк., 428).

**Нарожати** *дзеясл. Тое, што і* нарожатисе. назвал его израйлем, и реклъ ему: ѧ есмъ богъ всемогучи[s], розражайсѧ и множисѧ, цари и люди наро[жат] буд8т з тебе (Біблія, 75).

**Нарожатисе** *дзеясл. зв. Нараджацца.* тамъ теж алеѯандръ неподалеку нашолъ непосполитыи гори з которих выхожал ѡгнь на многих мѣстцах, в том тежъ ѡгню нарожаютсе черви мѧнованыи каламандри безъ которого ѡгню нимала терпѣти не могут (Алекс., 35б). *Параўн.* нарожати.

**Нарождение, нарожденье** *наз. Тое, што і* нароженье *ў* 1 *знач.* Войтехъ ... будетъ повиненъ ведле умовы своей давати ... копъ полътрети на Боже нарождение, свято руское (АВК, XX, 106, 1594); ѧко то нарожденью крещению, страстю, распѧтию в церкви божо[s] ѡсобливые дни постановлены с8ть (Унія, 24).

**Нарожденый** *дзеепрым. Тое, што і* нароженый *у* 1 *знач.* далъ ее, яко они мовятъ, человѣку Христу, зъ Марыи дѣвицы нарожденому (АЗР, IV, 90, 1595).

**Нарожденье** *гл.* нарождение

**Нарожене** *гл.* нароженье

**Нароженецъ** *наз. Родны, блізкі сэрцу; сын.* хотѧ мене смр҃ть пожадаючиѧ есть ѡ син8 наймилейший ѡ пресланый [!] нароженче. молитвы бедное матоухны приими (Пак. Хр., 11б).

**Нарожение** *гл.* нароженье

**Нароженый, нароженный, нарожоный** *дзеепрым.* **1.** *Народжаны.* тот же бог чл҃вком нароженыи первородности поганскіе к своеи слоужбе постил [!] (Валх., 53б); был справ ѡн то потроклюс муж шлѧхотныи и кн҃зь с поколеньѧ своего ѡт ѡц҃а и матки нароженыи ѡбычаевъ шлѧхотных (Троя, 37б); Людие пак[s] нароженныи в пустыни в[s] четырдесѧтъ летехъ, егда ходиша по широкости пустыни не беша обрезаны (Скар. ІН, 11б); Правдиве мовлю вамъ, не повъставъ межи нарожоных з[s] жонъ больший иоана крестителѧ (Цяп., 14б); прчстаѧ бц҃а ... з детѧтем нарожоным из иѡсиѳом до еѵгпт8 8текала (Зб. 261, 74—74б); вы естесте чл҃вкъ ѧко и мы, з невѣсты телеснѣ нарожены[s] (Алекс., 19б); Ѡдк8ль ѧвно, же вси з[s] него нароженыи в[s] тыижъ намѣтности впали (Мак., 378); кгды Хс҃ з нее

нарожены[s], през тое свое нарожене, стал се братомъ нашом [!], ѡна тежъ стала сꙗ маткою нашою (Зб. 255, 183б). *Параўн.* нарожденый.

**2.** *Які паходзіць па нараджэнню з якой-н. тэрыторыі.* ноубіане люди сь его королевствъ нарожены (Валх., 78); Далей индіане с королевъствъ папа ꙗна нарожены соут добре хрестіаны (Там жа, 79).

**Нароженье, нарожене, нарожение, нарожэнье** *наз.* **1.** *Нараджэнне.* где есть ѡнаꙗ радость котороую оу нароженіе твое мѣла есмь (Пак. Хр., 14б); Вси речи часъ имають ... часъ нарожению часъ смерти (Скар. ЕК, 6); дъню будучи нароженьѧ иродового плесала дочка иродыꙗдина впосредъкꙋ, и ꙋгодила ироду (Цяп., 19б); ѡн ѡт самог нарожеꙗ самог себе вырекъсꙗ (Зб. 261, 73б); вернисꙗ до земли твоеи и на мѣстце нарожеꙗ твоего (Бельск., 23); Философе ... повѣда[s] мнѣ рокъ, день, и годинꙋ нарожеꙗ царꙗ моего (Алекс., 2); Кроль прето з[s] нарожеꙗ бꙋдꙋчи потѣшеный, Іѡасафомъ его меновалъ (Варл., 18); ꙋважъ ꙗкꙋю радост ее нарожене свѣтꙋ всемꙋ принесло (Зб. 259, 471б). ◊ Б о ж ь е (б о ж о е) н а р о ж е н ь е — *Каляды.* рокъ было ему почати корчмы варыти на Божъе Нароженье (КЗ, 227, 1487); рокъ былъ положонъ на Божье Нароженье (АЗР, I, 140, 1494); людци мои шьли до церкви ѡ Бѡжьемъ нарожѣньи (КСД, 36, 1510); таѧ заповед житу сеножатем мает быти до Божего нарожеѧ (Ст. 1529—Ф, 113); мелъ ми тыи пенези ѡтъдати ѡ божемъ нароженьи минꙋломъ свꙗте (КВЗС, 4, 1533); пан Станислав Ѡльбрахтович Кгаштолътъ воевода Троцкии ꙋмер ... в ноч за тыидень перед Божимъ нарожэнемъ (Рач., 351); меновите о Божомъ нарожению и о великодню (СДГВ, 10, 1589); на божое нарожене крол до вилнꙗ приехал (Стрыйк., 595б); б о ж е г о (г о с п о д н е г о) н а р о ж е н ь я — *зыходная дата вызначэння часу.* Сталося есть и дано въ Луцку ... подъ лѣты Божего нароженя тисяча триста лѣтъ, осмдесятъ и осмь лѣтъ (АЗР, I, 26, 1388); Году отъ нароженья сына Божого тисеча шестьсотъ четвертого (АВК, XXIV, 8, 1505); выдан есть сесь статутъ ... року божего нарожэнꙗ тисеча пятьсотъ ѯ шостог (Ст. 1566, 7б); коли писано ѡт Божого нарожеꙗ тисеча трыста двадцатог году (Рач., 314); Писанъ ꙋ варъшаве, лѣта божего нароженьꙗ тисѧча пѧтсот ѡсмъдесѧт первого, мсца марца первого днѧ (Трыб., 15б); лета бж҃ого нарож афч҃ѳ, было бл҃говещеніе в пꙗтокъ велики[s] (Барк., 154б—155); Рокꙋ ѡт нарожениꙗ гд҃него афч҃ѳ

францꙋзы и нѣмцы Іерꙋсалимъ и всю землю ст҃ꙋю взѧли ѡт сарацинов (Бельск., 395б). *Параўн.* нарождение.

**2.** *Наставанне (маладзіка).* (планеты ... шествиѧ творѧт) и се оувѣмы ѡт лꙋны. на ѡбновленіи сиреч на нароженіи по всѧ вечеры (Неба, 61б).

**Нарожникъ** *наз.* **1.** *Вуглавы межавы знак, капец.* который обрубъ есть копцами усыпаный и знаки граничнеми означоно, то есть: почавши одъ первшого нарожника отъ всходу слонца, граница рекою Шеркшною ажъ до нарожника (АВК, XXIV, 165, 1554). *Параўн.* нарожница.

**2.** *Бастыён.* ту есть пры тыхъ нарожникахъ стѣна парцовская (АСД, I, 48, 1546).

**Нарожница** *наз. Тое, што і* нарожникъ *у* 1 *знач.* тутъ тры копцы были, то есть: нарожница единъ копецъ отъ Воиня, другій копецъ отъ Бранецкихъ, третій копецъ отъ Чехостова (АСД, I, 51, 1546); Граница ... починается у нарожницы королевское у Цуцновки (Там жа, 91).

**Нарожный** *прым.* **1.** *Межавы (знак).* положили границу ... въ Щеловатый камень, рубежными грани нарожное тяне въ велькій камень рубежный (АВК, XIII, 11—12, 1508); тые копцы нарожные Парцовскіе не суть розсыпаны зъ росказанья пана старосты (АСД, I, 48, 1546); починаетъся граница одъ всходу слонца отъ реки Маступи, где естъ копецъ нарожный усутый (АВК, XXIV, 158, 1554); копцовъ осыпаныхъ нарожныхъ четыри, а боковыхъ семъ (АЮЗР, I, 152, 1560); за працꙋ и проездъ подъкоморого ... ѡт копца кождого нарожного по двадъцати чотыри грошы литовъскихъ, а ѡтъ посреднихъ копцовъ ѡт кождого по гроше[s] дванадъцати (Ст. 1588, 355); там на сеножатце подле самое дороги великое семый копец усыпанъ нарожный (АВК, XXX, 207, 1602); съ того копца нарожного просто черезъ ниву до сосны (АВК, XI, 94, 1620).

**2.** *Вуглавы (дом).* панъ Остафей Ивановичъ Горностай ... продалъ и з рукъ своихъ пустилъ дворъ свой ... лежачый ... межы домы нарожными Гендрика Блюнка (АВК, XX, 26, 1576); з другое стороны дом нарожный мурованый ... от вшеляких податков ... вызволяем (СДГВ, II, 2, 1582).

**Нарожоный** *гл.* нароженый

**Нарожэнье** *гл.* нароженье

**Нарозни** *прысл. Тое, што і* нарозно *ў* 1 *знач.* печъ поливаный добрый, съ тое светлицы сень съ коминомъ, изба нарозни противко, оболоны шкляные целые (АВК, XIV, 200, 1579).

**Нарозно** *прысл.* **1.** *Асобна, паасобку, раздзельна.* Избито естъ мужовъ в тои битве нарозно тꙋ и вонде по полю ꙗко четыри тысещи (Скар. ПЦ, 11). *Параўн.* нарозни.

**2.** *У розныя бакі.* остало во крепости споение тое, и нарозно полица и плащъ не могˢсѧ розторгнути (Скар. КВ, 53б—54).

**3.** *У розніцу.* Люди ... прїѣзжаючи до мѣста у буденный день, окромъ торгового дня въ недѣлю, товару своего нарозно продавати и шинковати имъ не мають, одно уздоймомъ продавати (АЗР, III, 113, 1561); именейцо татарское Яцъковъское у килко братьи за куплями и заставами держать, нарозно покупивши (АВК, XXXI, 206, 1594).

**Нарозумити, нарозумети** *дзеясл. Наставіць на розум; навучыць.* срдце м*д*рого нарозꙋмить оуста его и на оуста его приложить наоуки (Зб. 262, 101б); мꙋ*ж* кгабриелъ ... ре*к* даниле теперь вышолъ есми нарозꙋмити тебе розꙋмомъ (Там жа, 123б); пришолъ есми нарозꙋмѣти тебе што*с* пригодить на послѣдо*к* дн҃еи людꙋ твоемꙋ (Там жа, 124). *Параўн.* наразумити.

**Нарозумляти** *дзеясл. Настаўляць на розум; навучаць.* ѡ*т*вѣча*л* елигꙋ ... оубоѧлсѧ есми поведати розоума своего ва*м*: реклъ бо есми дн҃еве говорѧть и множество лѣтъ исповѣдꙋють мдрсть: ажно дх҃ъ то е*с* оу чл҃це и дх҃не*н*е шадаево нарозоумлѧеть и*х* (Зб. 262, 25б); винꙋѧ поглꙋмника оумꙋдрѣеть глꙋпыи, и нарозꙋмлѧа м*д*рого прїиме*т* розꙋмъ (Там жа, 103б).

**Нарой** *наз. Дзёрзкасць, напорыстасць.* розмножалосѧ шемрание и нарои и крикъ (Скар. ЛК, 38б).

**Нарокомъ** *прысл. Знарок, назнарок.* петръ ... пришелъ квальтомь нароко*м* на его домъ и оу томь квальте ранилъ его (Вісл., 19); не вѣдалъ есми, абы тотъ пушкарь былъ ещо оу кляштори, и нарокомъ былъ заехалъ съ товарыши своими ... какъ быхъ ꙗ не ведалъ, вазнь на мѣне маючи (КСД, 124, 1514); хотела и жати с вами не браните еи, и что возмете въ рукоять утрушуите еи ꙗко же знаете нарокомˢ (Скар. КР, 4б); боудет ли делати се нароко*м* нечстоуѧ цр҃ѧ. или беседꙋ его, по*д*обаеть ѡ*т*далити его. оудалението*м* велики*м*. после казни (Арыст., 147); Кто з неѡбаченьѧ, або и нарокомъ, ѡбецуеть што неслушного ꙋчинити, а потомˢ сѧ каеть и не чинить хотѧ молбою ѡбецалъ тои единою только согрешилъ (Будны, 25б—26); режучы хлѣбъ упустила нароком под столъ нож (Бава, 137).

**Нароскошнейший** *прым. Тое, што і* найроскошнейший. Положили сꙗ вси на полꙗ*х* сенаа*р*, которые собѣ за нароскош-

нѣˢшие ѡбрал*и* (Бельск., 11б); были ... деревка, котории на*д* мѣрꙋ локтѩ болше не росли, котори*х* ѡвочъ и ли*сте* ѩко фиги нароскошнѣйшии (Алекс., 36б); ꙋважъ, ѩко се на ѡнꙋю вѣсть всѣ внꙋтрности ѡнои нароскошнеˢшои паненъки взрꙋшили (Зб. 259, 446б); где все што колве сотворилъ нароскошнѣˢшогѡ и налѣпшогѡ зобралъ (Хран., 5).

**Наростати** *дзеясл. Нарастаць, павялічвацца ў памерах.* коли еи ꙋже почал живо*т* нароста*т*, возвала до себе анектанава (Алекс., 2б).

**Нарочатый** *прым.* **1.** *Тое, што і* нарочитый *у* 2 *знач.* выбравши двана*д*цате*х* мꙋжевъ нарочаты*х* з кождого поколѣнѩ по мужꙋ, посла*л* на ѡгледа*н*е земли (Біблія, 189).

**2.** *Тое, што і* нарочитый *у* 4 *знач.* затрꙋбите на но*в* мсць трꙋбою, в нарочатый дн҃ь празника в҃шго (Пс. XVI, 83б—84).

**Нарочитый, нарочытый** *прым.* **1.** *Адборны, адметны, асаблівы.* рома*н* ... собра*л* двѣ тмѣ нарочиты*х* свои*х* (Чэцця, 169б).

**2.** *Вядомы, славуты, знакаміты.* то*т* дн҃ь ... аще ро*ди*тсѧ добръ нарочитъ кꙋпець. добыти имать добра. дерзъ гордъ. самъ себѣ оугожаѧ (Неба, 87); ѡни мужеве были зелжени соромотне велми, а были мужи нарочитыи (Біблія, 371); жебы народъ видѣлъ чꙋдо и дивовалъ сѧ, росказалъ розслабленомꙋ постелю взѧти и понести: за чл҃вка бовѣмъ толко его мѣли, анѣ и за Бг҃а: за чл҃вка одна*к* нарочитого, и на*д* всѣ люди знаменитшого (Каліст, I, 57б—58); Выбравши в҃і мꙋжевъ нарочитыхъ з ко*ж*догѡ поколѣньѧ по мꙋжꙋ, пославъ на огледаніе земли (Хран., 135). *Параўн.* нарочатый *у* 1 *знач.*

**3.** *Вельмі добры, самы лепшы, пачэсны.* ихъ ... на нарочыто*м* і значно*м* мѣˢцꙋ поховали (Зб. 81, 253); и*х* ... з воды выбра*в*ши на нарочито*м* и зна*ч*номъ местцꙋ поховали (Зб. 752, 126б); та*м* же до це*р*кви тѣло ст҃ого принесши в нарочито*м* а выбо*р*номъ мѣ*ст*ци почтиве поховали (Пралог, 563).

**4.** *Урачысты, важны, знамянальны.* иные приношаху часы ꙋставлеными ѡ*т* бога ѩко на празники нарочитые годовые (Скар. КЛ, 3); Первыи же день ѡ*т* нихъ нарочитъ и свѧтъ будеть вамъ (Скар. ЛК, 60); Царь ... празникъ нарочитыи въ ерусалиме празнуеть (Скар. ЧЦ, 233б); днѧ сего Ст҃го жалемъ моимъ не хочꙋ затрвожити, и нарочитый сей Възнесеніѧ Хв҃а празникъ зˢ смꙋткомъ змешати не хочꙋ (Каліст, I, 157); коли сѧ не по*в*стѩгаю*т* часо*в* припадаючы*х* на пло*т* невѣстю в плыне*н*ю крови и ст҃ы*х* днеˢ нарочиты*х*, и часу пристꙋпова*н*ѩ до ст҃ы*х* таи*н* христовы*х* тому*ж* кара*н*ю по*д*легаю*т* (Зб. 752,

531); хлюбили сꙗ тыи которие тебе ненавидꙗт, в посеред сꙑа нарочитого твоего (Пс. XVII, 56б); Маетъ ходити, въ каждꙋю первꙋю ндлю мсца и въ иныѧ дни нарочитыхъ праздниковъ (Зб. вып., 33б). *Параўн.* нарочатый *у 2 знач.*

**Нарочникъ** *наз. Нарачны.* идеть члкъ къ домꙋ свѣта своего и бꙋдꙋт ѡбходити по оулици нарочникы (Зб. 262, 92).

**Нарочный** *прым. Нарачны.* поставили их перед нами на ѕмꙗ лꙋкъꙗнъ грыгоревъ сынъ з латыголы нарочъныѕ чоловекъ (КВЗС, 118, 1539); Жаловалъ намъ чоловекъ господарскиѕ нарочъныѕ замъковыѕ витебъскиѕ (Там жа, 122).

**Нарубаный** *дзеепрым. ад* нарубати. оказывалъ намъ Матфей много дерева въ томъ гаи отъ нихъ нарубаного (АВК, XVII, 328, 1541).

**Нарубати** *дзеясл. Насячы, ссячы нейкую колькасць чаго-н.* ꙋбѣгаючисꙗ нарꙋбали голиѕ з дерев (Біблія, 127б); потом кгды нарꙋбали дров на ѡфѣрꙋ, казал авраам младенцом зостат (Бельск., 18б); каждыѕ взꙗлъ собе секирꙋ, и почали рꙋбат и такъ много днеѕ ѡраз нарꙋбали (Пралог, 643).

**Нарубенье** *наз. Пабудова, узвядзенне.* Дойлиду Матвею за нарубене выводу, за день дали осмак. двадцать (ИЮМ, III, 164, 1685).

**Нарубленый** *дзеепрым. Высечаны, памечаны высечкай.* Напередъ зачинаетъ се граница зъ Невлемъ рѣчки ... у Прабаровый боръ, зъ Прабарового бору на сосну, на которой соснѣ лукъ и кубики нарублены (АВК, XIII, 299, 1604). // *перан. Загадзя акрэслены, вызначаны. назначаны.* нарꙋблены дни его число мсцеи его с тобою мѣрꙋ его оучинилъ еси и не проидеть (Зб. 262, 17б); видели бо ѡчи его напасть его и ѡт ѣдꙋ шадаевого напил бы сѧ: иже што зволеніе его вѕ домꙋ своемъ послѣ себе а число мѣсѧцеи его нарꙋблено (Там жа, 21).

**Нарубляти** *дзеясл. Ставіць, узводзіць.* теслемъ семи, што нарубляли и перекрывали доромъ важницу, за день (ИЮМ, X, 167, 1695).

**Наругание** *гл.* наруганье

**Наруганый** *дзеепрым. ад* наругати. панни черницы пании и иныи бѣлые головы нарꙋгаными зостали (Стрыйк., 492); По ѡном третиѕ был нарꙋган, а коли ему ꙗзыкъ подат казано зараз подалъ и смѣле рꙋки вытѧгнꙋл (Кн. Мак., 50б); Тогды царъ гнѣвом запаленыѕ, над тым ѡкрꙋтнѣй ниж над всими се срожил, гнѣваючисе же был нарꙋганыѕ (Там жа, 52).

**Наруганье, наругание** *наз. Дзеянне па дзеясл.* наругати. Widia że kniaź Michayło z pany y so wsim woyskom smech y naruhanije ich, skoro kazał wsim polkom, obema hatmi reku perechodyty (Бых., 571); непрыятелемъ едности светое въ посмѣвиско и въ наруганье прывелъ (АСД, VI, 113, 1608); Пророкини Анна молитвою и постомъ Самꙋила зачала, и нарꙋга*нѧ* без пото*м*ности збыла (Каліст, I, 33б—34); вѣдай же, и*ж* и земное нарꙋга*не* онъ оутерпѣл[s], поневажъ мови*л*, нарꙋга*нѧ* нарꙋгаючи*х* пали на мене (Там жа, 150); панъ Кособуцкій ... для наруганья самого пана Кособуцкого ... съ того дому пана отца своего уступити мѣлъ (АСД, I, 369, 1646); зми[s] то[s] которого есь створилъ кꙋ нарꙋга*н*ю ему (Пс. XVII, 109—109б); не розꙋмѣй ѡ слꙋжебнице твоей ꙗкѡ ѡ ѡдной з дочокъ нарꙋганьѧ (Хран., 198); частокро*т* нарꙋга*не* и понижe*не* ѡ*т* своих теръпѣли (Зб. 82, 11).

**Наругати** *дзеясл. Абражаць, зняважыць, зневажаць.* мꙋдре и пожитечне тыхъ людій строфꙋетъ, которыи розꙋмѣючи себе быти справедливыми, з[s] грѣшачи*х* насмѣвают[s]сѧ и нарꙋгаютъ (Каліст, I, 1б—2); Што бовѣ*м* тогды за вѣра людꙋ Ізраилского была; брали камѣнье на Хā, жебы его оубили: насмѣвали сѧ з[s] него, и нарꙋгали, обжирцою, пьѧницою, самарѧниномъ, и бѣсноватымъ называючи (Каліст, II, 22).

**Наругатися, наругатисе** *дзеясл. зв. Здзекавацца, глуміцца; насміхацца, кпіць.* егда слыша*т* ѡ моуце и ѡ соудѣ хсве. то нарꙋгаючогосѧ говорѧ*т* (Чэцця, 359б); наругалъсѧ еси прѣвышънему глаголѧ (Скар. ЧЦ, 227); Сей птоломе[s] за*с* иерꙋсоли*м* ѡпанова*л* а жидовꙋ в поло*н* до египта зав*е*дши нарꙋгавсꙗ з ни*х*, и смѣшки и игрища з ни*х* строивъ также каза*л* ихъ мо*р*дова*т* и забива*т* вездѣ (Кн. Мак., 47б); іереемъ кривды чинятъ, біютъ и наругаются зъ нихъ (Гарм., 187); ꙋпокоривши сѧ прето и мы братіе, самы*х* себе посꙋжаймо, з[s] самы*х* себе нарꙋга*и*мосѧ и насмѣваймо, жебысмо сѧ в[s] старшный оны*и* нелицемѣрного сꙋда день не осꙋжоными знашли (Каліст, I, 7б); ꙋничиждаю: Нарꙋгаюсѧ, легце важꙋ, оукорѧю (Бяр., 180); тепе*р* емꙋ при*с*певаю*т* благословенъ, на то*т* ча*с* бу*д*ꙋ*т* се з него нарꙋгати, на два*р* его бозскую плевать (Зб. 255, 34); ведали есмо то же то[s] погани*н* хоче*т* нарꙋгатисꙗ ѡбразꙋ твоемꙋ (Зб. 752, 81); ненавидѣли егѵптѧне сыновъ Ізраилевыхъ, и нарꙋгалисѧ з нихъ (Хран., 78б); староста ... ѡбои*х* наги*х* по мѣски*х* ꙋлица*х* биючи и нарꙋгаючисѧ водити повелѣ*л* (Зб. 82, 208б).

**Наругачъ** *наз. Той, хто абражае, зневажае, здзекуецца, глуміцца над кім-н.* ѡт насмѣвцѡвъ и нарꙋгачѡвъ дѣдицтво свое ратꙋй, и освободи (Каліст, II, 311б). *Параўн. наругаючий.*

**Наругаючий** *дзеепрым. у знач. наз. Тое, што і наругачъ.* вѣдай же, иж и земное нарꙋгане онъ оутерпѣлѕ, поневажъ мовил, нарꙋганѧ нарꙋгаючих пали на мене (Каліст, I, 150).

**Наружи, наружы** *прысл. Звонку, знадворку, са знешняга боку.* Сии животы растѫть и ѡсѧзание их горѧче, а сами хꙋды а жилы их нарꙋжи (Арыст., 183); дѣло борзо велми а жилы нарꙋжы (Там жа, 188); Прирꙋчно: Нарꙋжи, надорꙋдю (Бяр., 127).

**Наруквица** *наз. Нарукаўнікі ў адзенні свячшэннаслужыцеляў.* стихаровъ два, наруквицъ трои, крестъ сребрный (АСД, I, 281, 1634).

**Наручникъ** *наз. Паручыцель.* Абы тѣмѕ обычаемъ всимъ ꙗвно было, иже не за свои злости, але ꙗко наручникъ за чужіе тѣрпѣлъ (Будны, 129); тогды вже он іако наручникъ его от сего дня за шест недел истъцу становити мел (ИЮМ, XXXII, 210, 1577).

**Наручъ** *наз. Поручы, засцерагальны даспех для рук.* въ коморе остало ми три рогатины, три сабли, зброя дощатая зъ наручи и зъ наколенками и зъ капалиномъ, сагайдаки три зъ луки (АВК, XVII, 243, 1540); Трыщан почалъ класти левую наруч на правую руку, а правую на лѣвую, а правую нанож на лѣвую, а левую на правую (Трыст., 109—110).

**Нарушаный** *дзеепрым. ад* нарушати. абы суды ... окгравованые и нарушаные не были (АВК, XV, 126, 1664).

**Нарушати** *дзеясл. Парушаць.* Не видѣло ся его королевской милости тыхъ ихъ правъ и вольностей нарушати, и иные новые обычаи иныхъ правъ въ ихъ права вносити (АЗР, III, 37, 1551); ничого не вызмуючи и ни в чом не нарушаючи ѡных первшых привилевъ ... ꙋѳалꙗемъ (Ст. 1566, 3); уряд, не нарушаючи ни в чомъ права моего ... мне при тых моркгах зоставил (АВК, XXXIX, 98, 1578); сего запису моего ни в чомъ нарушати не мають и мочы не будуть (АВК, XXXVI, 17, 1582); Тежъ прирекаемъ вси привильѧ земъские стародавные, и ново ѡтъ насъ даные вольности и звычаи добрие стародавные ховати, и ни в чомъ того не нарушати (Ст. 1588, 81); порадкꙋ церкви божое такъ в слꙋжбе божоѕ ꙗко в сакраментахъ и въ иншых церымонияхъ не нарꙋшаетъ (Унія, 7); чого ꙗко въ всѣхъ справахъ, такъ и в томъ никгды ничим нарꙋшати не хѡчемо (Апакр., 29б); абы на томъ воеводы будучые Витебские нико-

му ихъ не отдавали и волъностей ихъ не нарушали (ИЮМ, II, 222, 1628—1629); не маемъ мы и потомки наши не мають сеѣ данины нашой нарушати, и ни въ чомъ его самого и дѣтей его не кривдити (АЗР, V, 2, 1633); зачнешъ сына божого з дѹха с҃тго и породишъ его не нарѹшаючи паненства своего (Зб. 259, 475б).

**Нарушатися** *дзеясл. зв. Парушацца.* нехай бы передъ урадомъ своимъ мѣстскимъ ... справедливости собе доходили, абы ... право Магдебурское ... не нарушалося (СДГВ, 106, 1559); се отъ некоторыхъ становъ упоромъ ихъ кгвалтовне нарушають надан[ь]я ... костелные (КПД, 489, 1568); Владза въ духовныхъ справахъ Константинопольского патріарха, тутъ старожитная, вельцѣ ся нарушаетъ и правѣ зкгвалчона есть (АЗР, IV, 192, 1599).

**Нарушаючий** *дзеепрым. ад* нарушати. а ни хто з насъ самыхъ ... не маемъ того наймнейшимъ способом взрушивати ... а на сторону нарушаючого (АВК, XXIV, 464—465, 1597); Я Иванъ ... пану Криштофу, або я Криштофъ ... пану Ивану ... позволяемъ .... позвати зъ насъ которого кольвекъ сей нашъ делъ нарушаючого до суду и права, до которого ... самъ похочеть (АВК, I, 24, 1609); беда тымъ нарѹшаючимъ милост (Зб. 259, 47б).

**Нарушевати** *гл.* нарушивати

**Нарушене** *гл.* нарушенье

**Нарушение** *гл.* нарушенье

**Нарушеный, нарушоный, нарюшоный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* нарушити *ў* 1 *знач.* такъ ровьною паръсуною право посполитое не было нарушоно (КПД, 27, 1538); менилъ крывъдѹ дочце своеѕ жоне моеѕ быти ѡтъ матки моее нарѹшенѹ (КВС, 574б, 1552); просятъ, абы тые права и вольности не были имъ нарушены и овшемъ при моцы зоставлены (АЗР, III, 14, 1547); ѡное перво створенье, длѧ которого былъ Богъ суботу свѧтити велѣлъ, Адамовымъ грѣхомъ было нарюшоно, а ново І҃сомъ Х҃ромъ ѡпѧть естъ наидѣно (Будны, 42—42б); достоѕности и врѧды не мають быти нарушоны а звлаща давъные (Ст. 1566, 30б); кгдыжъ и внѣшнимъ законоположникомъ непотребнаѧ речъ быти здаетсѧ, безѕ великого и значного пожиткѹ нарѹшеномѹ быти чомоу, што долгимъ часомъ оутвердило людское собранье (Апакр., 191); длѧ того нынѣшный день вѕ благословеніи празнѹемо ... ижъ первое оное седми съборами оухваленое православіе, ѡт нѣкоторыхъ цесаров, ѩкѕ сѧ рекло, на-

рꙋшеное, цр҃кви Бж҃ой вѕ той день Ст҃ыми ѡтцы привернено зостало (Каліст, I, 39б); ижъ бы тымъ пунктомъ не былъ нарушоный привилей, теперъ его знову казали есмо вписатъ (ИЮМ, VIII, 483, 1634).

**2.** *Пашкоджаны.* кгдымъ приехалъ до именья тое Олехновой Горницкого, напервей виделъ у сеняхъ завесы нарушоны троха (АВК, XXI, 200, 1556—1557); не могꙋ, ани тежъ собѣ або до взростꙋ або до кшта*л*тꙋ што прідати, або оунѧти, ани што зветшалого въ мнѣ ѡ*т*новити, ани што нарꙋшеного або зепсованого, направити (Варл., 146б); Ленъ теды и ꙗчмень заражоны есть, прето ижъ ꙗчмень зеленый, а ленъ оуже головки выпꙋщалъ, але пшеница и жито не сꙋть нарꙋшоны, бо позны были (Хран., 87).

**3**. *Які пацярпеў.* стороне в томъ нарушоной — вси шкоды и наклады на слово реченое, кромъ доводу и присяги телесной оправити и заплатити маемъ (АВК, XXIV, 380, 1581); тогды повинен буду заруки на врад гсдръский земъский Городенъский десеть копъ грошей литовскихъ, а стороне нарушоной ... заплатити (АВК, XXXI, 90, 1591).

**Нарушенье, нарушене, нарушение** *наз.* **1.** *Парушэнне.* Тутъ ваша милость рачи обачити ... естъли же то не естъ з нарушеньемъ правъ и статуту всего панъства Великого Князства Литовъского (КПД, 26, 1538); просите, абы въ томъ привильямъ земскимъ нарушенья не дѣялося (АЗР, III, 53, 1554); пани Сворожинъска того права своего ... спокойне, без вшелякаго нарушенъя уживат завъсегды буде рачыла (АВК, XXXVI, 71, 1582); митрополи*т* и зѕ свои*м* товаришствомъ нарꙋшеньѧ помѣненыхъ землѣ волынской и кнѧзства кіевского привиле*ѡв* далъ причинꙋ (Апакр., 22—22б); ѡбавꙗючисꙗ абы в своеѕ зве*р*хно*сти* чти и ласце нарꙋше*н*ꙗ ꙗко*г* не ѡ*т*неслъ, поч*ал* пере*д* ꙗкгеѕло*м* кестꙋта през потва*р* непристоѕне шкелева*т* и вѕ ѡгиду приводи*т* (Стрыйк., 546б); Мают они ... объходити и радити без всякое перешкоды и нарушеня на всѣ пришлые часы непорушно (СДГВ, 79, 1633); за нарушеніемъ которогокольвекъ пункта и за нечиненьемъ досыть сему моему запису фундушу, даю вольность ... позывати до всякого суду и уряду земского (АЗР, V, 71, 1641); нарꙋшеніе вѡлности цр҃ковнѡи (Зб. вып., 44б—45)

**2.** *Пашкоджанне; страта нявіннасці, цноты.* ѡто вижꙋ четыре*х* мужо*в* розвꙗзны*х* и ходꙗчи*х* в посере*д*ку ѡгнꙗ, а жадного нарꙋше*н*ꙗ немашъ в ни*х* (Біблія, 537); который ... зѕ ст҃ои

Па*н*ны оуродилсѧ, и без насѣньѧ мѹжеского и нарѹше*н*ѧ панe*н*ства тѣло прин*ѧл* и люде*м* сѧ ѡказалъ (Варл., 250—250б); другая девчина, Окъсинья, въ живыхъ будучая, въ паненьской чистости нарушенье и зепъсованье презъ кгвалтовное порубъство телесности незнаючой отнесла (ИЮМ, IX, 292, 1637); Вредъ: Вродъ, болѧчка, метаѳ: шкода, оутрата, ѡбраза [грѣхъ] нарѹшенѕе, зопсованѕе (Бяр., 17); через но*ч* провадечы ее а*ж* до мѣста и а*ж* в до*м* ее впровадиле*м* ее без нарѹшеньѧ (Зб. 107, 171—171б); Натуры и фортуны могу*т* бы*т* тые ижъ бѹдучы младе*н*цемъ в жывоте матки твоее, ѡ*д*туль та*м* здорово бе*з* нарѹшеньѧ вышолъ (Зб. 255, 373б); веселисѧ панно, котораѧ безъ нарѹшенѧ паненства своего, маючи вшелѧкѹю ласкѹ Бж҃ѹю, породишъ сн҃а Іс҃ Х҃а (Зб. вып.. 100б).

**3**. *Тленне, гнienне.* Истлѣніе, ѣ : Нарѹшенье, зопсованье (Бяр., 61).

**Нарушивати, нарушевати, нарушывати** *дзеясл., шматкр. ад* нарушити *ў* 1 *знач.* мы всегды тако у своихъ дѣлѣхъ уступовали, яко быхмо ее ни въ чомъ не нарушивали (АВК, I, 117, 1492); таковые вольности ... его кролевъская милость звыкъ естъ кождому пры моцы заховати, ласки и данины своее ... ни въ чомъ не нарушиваючы (КПД, 170, 1551); постановенье нашо вечъными часы ни ѡ*т* кого ничымъ не нарѹшываючы межи нами де*р*жано маеть быти (КВС, 576б, 1552); я ... дети и повиноватые мои сего запису моего ничимъ нарушивати ... не маемъ (Пін., 119, 1561); не одмѣняючи и не порушаючи того вѣчне держати и непорушно ховати обѣцуемъ и маемъ и ниякимъ обычаемъ никому того нарушевати не допустимъ (АЮЗР, II, 163, 1568); которая тотъ делъ держати а его ни в чомъ нарушивати не будетъ (АВК, XXII, 441, 1570); Господарь король его милость, не хотѣчи ни въ чомъ статуту права посполитого нарушивати, тую справу до суду приналежного отослати рачилъ (АЗР, III, 242, 1579); сес лист мой ... вцале захован быти маеть, ни в чомъ его не нарушываючы (АВК, XXXVI, 418, 1590); того ся вжо под нимъ не домогаючы и ничымъ сего тестаменьту остаточное воли моее не нарушываючы тые сынове мои ... на ровность промежку себе розобрати ... маетъ (АВК, XXXII, 181, 1596).

**Нарушитель** *наз. Парушальнік.* надъ то, и самого таковoго, яко нарушителя права посполитого, карати маемъ (АЗР, IV, 2, 1588); ктобы што противъ сему праву и привилею нашому упросилъ и въ держанье чого пришолъ ... мы господаръ ... са-

мого такого, яко нарушителя права посполитого карати маемъ а повинни будемъ (АВК, VII, 96, 1588).

**Нарушити, нарушыти, нарюшити** *дзеясл.* **1.** *Парушыць.* абовемъ не рачилъ ваша милость ... тымъ правомъ особъливымъ, которое одному повету далъ, зламать и нарушить права посполитого (КПД, 40, 1538); е*ст*ли быхъмо хотели чымъ кольвекъ с того записꙋ нашого нарꙋшыти ... теды маемъ заплатити вины (КВС, 456, 1552); Я Ивашко вже не маю ни чимъ ся в тую часть брата моего уступати, ани тое справы нарушити (АВК, XXI, 263, 1556—1557); кто длѧ слюбу або клѧтвы, боѧчисѧ ее нарюшити, противу закона чинить, того согрѣшенье, не е*ст* просто, але вже двоѧко (Будны, 26); тогож дей дня ... нарушывшы покой посполитый ... тотъ же дей пан Миколай ... з ручницы прыятеля моего пана Войтеха Мостовила пострелилъ (АВК, XXXVI, 59, 1582); якож дей и не по однокрот вжо тот лист свой нарушыла (АВК, XXXII, 63, 1596); кланꙗлисꙗ емꙋ вси слꙋги кролевские падаючи на свои колѣна хвалꙗчи его, ѡдно мо*р*д*ꙋ*хаѕ не хотѣ*л,* абы законꙋ ѡ*т*цо*в* свои*х* не нарꙋши*л* (Бельск., 161); ꙗкъ же теды прысѧгꙋ тꙋю, которꙋю Б҃гови оучинил*е*м, зламати албо нарꙋшити бꙋдꙋ смѣть (Варл., 275б—275б).

**2.** *Падарваць, аслабіць.* молодыѕ естес а великую собѣ працꙋ задаешъ, нарꙋшишъ силу свою (Зб. 82, 320б).

**Нарушитися, нарушитисе** *дзеясл. зв.* **1.** *Парушыцца.* абы ся тою одною перъсоною право всее земъли не нарушило (КПД, 20, 1538); абы его милость съ паны радами своими рачилъ углянути у привилья и вольности земскіе, и то, што бы ся въ нихъ нарушило, абы рачилъ казать поправити (АЗР, III, 25, 1551); ꙋме*р*лъ та*м* моисей ... а не затмилосꙗ ѡко его, ани сꙗ нарꙋшили чи*р*ствость его (Біблія, 231); ꙗкъ долго прето живемъ, бы толко Православнои вѣры фꙋндаментѕ моцный зоставалъ, хоть сѧ нѣшто стѣнъ, або прикритѧ нарꙋшитѕ (Варл., 94б—95); повторое, треба постити ѡ*т* полꙋноци цале ничого не заживаючи, чимъ бы постъ моглъ нарꙋшитисѧ, и постановѣти ѡ*т* того часꙋ, жаднымъ грѣхомъ Божого маестатꙋ не ображати (Зб. вып., 22).

**2.** *Падарвацца, аслабець (аб здароўі).* викине*н* пото*м* з жывота велирибе*г*, на бере*г*, та*к* и*ж* се емꙋ здоровꙗ не нарꙋшило на жадно*м* члонкꙋ (Бельск., 136); Не на всѣхѕ, повидѣли ѡни, але на тыхъ толко, которы*х* сѧ здоровѕе длѧ злыхъ вилкготностей нарꙋшило (Варл., 33б).

3. *Напоўніцца, пранікнуцца.* протож пилат завистію и ненавистию нароушилсѧ а злостною ненавистию припоужон брата своего таемно забил (Пак. Хр., 22б).

**Нарушоный** *гл.* нарушеный

**Нарушывати** *гл.* нарушивати

**Нарушыти** *гл.* нарушити

**Нарыбеный** *дзеепрым. Зарыблены.* Сажовокъ 2 добре нарыбеныхъ зъ рыбами (АСД, IV, 231, 1569).

**Нарысованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* нарысовати. Начрътаніе, или написаніе: нарысованье (Бяр., 90).

**Нарысовати** *гл.* нарисовати

**Нарыхлей, нарихлей, нарыхле** *прысл. Тое, што і* найрыхлей. тая реч потребуеть велми спешного отправеня, абы тые его послы чымъ нарыхлей в него были (Арх. ЮЗР, VIII—5, 4, 1532); самъ на собе чимъ нарыхлей сказъ чинити казалъ (АВК, XVIII, 21, 1575); потомъ што нарыхлеѕ вознымъ и стороною ѡбъведшы до врѧдꙋ привести и ѡказати маеть (Ст. 1588, 542); принаглѧли им египчики, абы што нарыхлѣѕ вышли (Бельск., 44б); Длѧ того ростыркꙋ што нарыхле на местце столечное монархии и кнѧзства Киевског выбран и поднесен ест володымер (Стрыйк., 469б); Его милость отецъ митрополитъ, выпавшы зъ избы а заволавши до себе двохъ выростковъ, послалъ ихъ съ тымъ, абы чимъ нарыхлѣй бѣгши, довѣдалисе (АВК, VIII, 564, 1612); Вси ѧкѡ нарихлѣй до мене зѕѣдтесѧ, а бꙋдете мѣти ѡд мене кролевскіи дары (Мак., 325); оутрапене ѧкъ нарихлѣй подаетѕ, и на порꙋгане неприѧтелемъ своим высажаетѕ (Варл., 109); чого всего маюць пилновати сотники, поручники и десятники, абы яко нарыхлѣй парканъ со всимъ на всимъ выставити (АСД, V, 308—309, 1638); што иншого естъ тѣло человечее ... ѡдно ѧкис выход плюгавъства, што воѕна, выгнане, и нендза, и прето жебы нас ѡд того ѧко нарыхлѣѕ выбавил и до ѡтчызны небесное припровадилъ (Зб. 255, 425б—426); если лице плюгавъствомъ ѡскарадненое бꙋдет, што нарихлеѕ ѡбмываете (Зб. 259, 530).

**Нарыца** *наз. Свішч, падскуравы нарыў (у каня).* Горелки для коней, бо у нихъ зъ працы нарыца прыпала (ИЮМ, VI, 88, 1689).

**Нарыцаемый** *гл.* нарицаемый

**Нарыцающый** *гл.* нарицающий

**Нарюшити** *гл.* нарушити

**Нарюшоный** *гл.* нарушеный

**Нарядити** *гл.* нарадити II

**Нарядитися** *гл.* нарадитися II
**Нарядне** *гл.* нарадно
**Нарядный** *гл.* нарадный
**Нарядъ** *гл.* нарадъ
**Наряжати** *гл.* наражати
**Наряженый** *гл.* наражоный
**Наряженье** *гл.* нараженье
**Наряжоный** *гл.* наражоный
**Насадзитися** *гл.* насадитися

**Насадитель** *наз. Той, хто насаджвае што-н., садзейнічае памнажэнню, распаўсюджванню чаго-н.* насадителемъ зась винницы, ижъ межи всѣми иншими народами выбра*л* собѣ людъ Ізраилскій ... винница есть народъ жидовскій (Каліст, II, 75).

**Насадити** *дзеясл.* **1.** *Пасадзіць, зрабіць пасадку дрэў, раслін; засадзіць раслінамі, пакрыць насаджэннямі.* он[s] ... насадилъ виноградъ и не поживалъ ѡ*т* плоду его (Скар. ДЗ, 39б); всемꙋ времѧ и ча*с* ... ча*с* насадити а часъ выкоренити насаженого (Зб. 262, 87б); онъ ѡ*т*поведаючи рекъ, каждыи садъ которого не насадить отецъ мой небесный, выкорениться̑ѧ (Цяп., 21); чл҃вкъ котори[s] насади*л* виноградъ ... нехай иде*т* и воротитсꙗ до дому своего (Біблія, 223); ѡбачи*л* ное мо*ц* ты*х* ꙗго*д*, накопа*л* и*х* и насади*л* дома (Бельск., 10); Человѣк[s] нѣкоторы*и* былъ домовый господаръ, который насадилъ винницꙋ, и плотомъ еи огородилъ (Каліст, II, 74); вшелѧкого рожаю древъ насадили (Мак., 15); господа*р* ... фикговое дерево насадилъ в ви*н*ници свое[s] (Зб. 259, 530).

**2.** *Стварыць, аснаваць; зрабіць, учыніць.* не иныи со мною раи насадивъ. но то*т* есть ѡдинъ сн҃ъ мои любимыи (Чэцця, 130); гдѣ бы*л* праѡтецъ нашь ада*м* ино еде*м* зоветсѧ, в не*м* же бг҃ъ раи насади*л* на въздꙋсе (Алекс. XV, 1); насадил[s] былъ гс*д*ь богъ раи коханиѧ изначала (Скар. КБ, 11); створивши па*н* бг҃ъ чл҃вка насади*л* ра[s] на востоцѣ*х* в едеме (Бельск., 3); ꙗкож[s] далеко и неровно сличнѣйшій и роскошнѣйшій тотъ рай и ѡгород[s] быти мѣлъ, который собѣ, а не комꙋ иншомꙋ к[s] воли, всесилнаѧ десница его насадити и запечатлѣти рачила (Карп., 30); насади*в*ши в[s] Едемѣ на востоцѣ Рай ... чл҃ка, которого створилъ, в[s] ѡномъ посадил[s] (Варл., 47б—48); повѣдаютъ нѣкоторіи, ижь рай которогѡ насадилъ бг҃ъ на востоцѣхъ, одно третію часть ѡ*т* земли до нб҃съ высокость свою маетъ (Хран., 5).

**3.** *Пасяліць, размясціць у якой-н. колькасці для вядзення гаспадаркі.* Корение народовъ гордых[s] ꙋсушил[s] е*ст* богъ, и наса-

